# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1966
Сакавік-Красавік

Год XIV
№ 2 (95)

ЗЬМЕСТ:

РЭДАКЦЫЯ ВІТАЕ СУРОДЗІЧАЎ «ХРЫСТОС УВАСКРОС!» І СА СЬВЯТАМ 25 САКАВІКА • ПАСЛАНЬНІ ІІ-ГА ВАТЫК. САБОРУ • СЬВ. КІРЫЛ ТУРАЎСКІ • МАЕ ПРЫЯЦЕЛІ — В. АНОШКА • ДЗЕД І БАБКА • СЬВЯТАРЫ-РАБОТНІКІ • ВЕЛАРУСКАЯ ГРАВЮРА Ў ДРЭВЕ • З ЦАРК. ЖЫЦЬЦЯ • З БЕЛ. ЖЫЦЬЦЯ • ЖЫЦЬЦЁ І СЬМЕРЦЬ АТЭІСТА • БОГ У СЬВЕЦЕ.

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1966 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**
**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**
**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

**Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:**
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIV** **March—April 1966** **№ 2 (95)**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE., LONDON, N. 12
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XIV | САКАВІК—КРАСАВІК, 1966 | № 2 (95)

УЛАДЫКА ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ, АПОСТАЛЬСКІ ВІЗЫТАТАР БЕЛАРУСАЎ

і

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

ВІТАЕ ДАРАГІХ ЧЫТАЧОЎ, ПРЫЯЦЕЛЯЎ І ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Такжа са

СЬВЯТАМ 25-ГА САКАВІКА!

КАБ БОГ ДАЎ НАШАМУ НАРОДУ ВОЛЮ І ПОЎНУЮ СВАБОДУ
НАШАЙ ДАРАГОЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!



**25**

## САКАВІКА

## 1918 — 1966

**48-я угодкі абвешчаньня незалежнасьці**
**БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**

# Пасланьні II-га Ватыканскага Сабору

## ДА ЎСЯГО ЧАЛАВЕЦТВА

У № 1 (94) нашага часапісу мы ўжо зьмясьцілі ПАСЛАНЬНІ да кіруючых дзяржавамі і да людзей думкі і веды. Цяпер даём ПАСЛАНЬНІ да мастакоў, да жанчын і да работнікаў-работніц. У заканчэньні будуць ПАСЛАНЬНІ да моладзі і да бедных, хворых і церпячых.

Як бачым, ПАВАЛ VI і САБОР зьвяртаюцца да ўсіх катэгорыяў людзей: значыць, усё чалавецтва, народы і дзяржавы, сем'і і кожны чалавек можа тут знайсьці слова навукі, выясьненьня, заклiку і перасьцярогі ў цяперашніх паступовых, але і вельмі небясьпечных падзеях сучаснае долі і нядолі нашага сьвету. Мусімо добра ўявіць сабе, што мы жывём на сьвеце, каб пазнаць, слухаць і любіць Бога — для нашага вечнага шчасьця. А пры гэтым і зямное шчасьце нам даступна: Бог так стварыў сьвет, што чалавецтва, разумна і сыстэматычна працуючы, можа жыць у дастатку і свабодзе. Да гэтага розуму, да згоды і любові заклікае нас Сабор. На міласьць Божую Сабор перасьцерагае перад войнамі, якія пагражаюць згубаю цывілізацыі і наагул жыцьцю ўсіх людзей. Прычынаю гэтае небясьпекі ёсьць атамная энэргія і голад.



*Павал VI-ы дэручае Пасланьне Сабору тым, што трымаюць у сваіх руках лёс людзей на зямлі. Ад імя палітычных дзеячоў прыняў пасланьне амбасадар Бэльгіі*

Толькі вера ў Бога і жыцьцё паводле Божага Закону — гэта ёсьць адзіная і пэўная зарука супакою і магчымага шчасьця на зямлі.

Найперш даём ПАСЛАНЬНЕ

### ДА МАСТАКОЎ

**Цяпер да Вас, Мастакі: Вы захоплены прыгожасьцяй і дзеля яе працуеце — паэты, пісьменьнікі, жывапісцы, скульптары, архітэкты, музыкі, людзі тэатру і фільму... Да Вас усіх гаворыць Царква Сабору нашым голасам: калі Вы — прыяцелі сапраўднага мастацтва, дык Вы — нашыя прыяцелі!**

**Царква здаўна была з Вамі ў сувязі (саюзе). Вы будавалі і прыгожылі яе сьвятыні, багацілі яе Літургію. Вы памаглі Царкве выказаць яе Божую місію языком формаў і фігураў, каб нявідавочны сьвет учыніць прыкметным.**

**Сяньня так як учора Царква Вас патиабуе і зьвяртаецца да Вас. Яна гаворыць да Вас нашым голасам: не пазвольце, каб разарваўся гэты плодны ува ўсім саюз. Не адмаўляйцеся аддаць ваш талент на службу Божае праўды! Не замыкайце душы на подых Сьвятога Духа!**

**Сьвет, у якім мы жывём, патрабуе прыгожасьці, каб не патануць у роспачы. Прыгожасьць, так як праўда, гэта ёсьць тое, што ўносіць радасьць у чалавечае сэрца. Гэта ёсьць дарагі плод, які супраціўляецца ліхвярскаму часу. Прыгожасьць лучыць пакаленьні і прыводзіць іх у зачараваньне. І гэта праз вашыя рукі...**

**О, каб гэтыя рукі былі чыстыя і бескарысьлівыя! Памятайце, што Вы — вартаўнікі прыгожасьці ў сьвеце: хай гэтага Вам хопіць, каб вызваліць Вас ад мімалётнага і мала вартаснага нахілу, каб Вас звольніць ад шуканьня дзівосных і хвараблівых спосабаў перадачы.**

**Будзьце заўсёды і ўсюды варты вашага ідэалу, а будзеце вартымі Царквы, якая праз наш голас кіруе да Вас у гэтым дню сваё Пасланьне — прыязьні, прывітаньня, падзякі і багаславенства.**

### ДА ЖАНЧЫН

**Цяпер да Вас зьвяртаемся, Жанчыны ўсякага стану, дзяўчаты, жанкі, маткі і ўдовы. Такжа і да Вас, дзевы пасьвячаныя Богу і жанчыны адзінокія. Вы становіце вялізарную палавіну людзкое сям'і.**

Царква ганарыцца тым, як Вы ведаеце, што ўзвысіла і вызваліа жанчыну, і Царква даканала таго, што ў працягу стагодзьдзяў жанчына ў розгнасьці характараў сьвяціла істотнай роўнасьцю з мужчынамі.

Але надыходзіць гадзіна, дый прыйшла ўжо, калі прызваньне жанчыны дапоўніцца цалкам. Гадзіна, у якой жанчына атрымае ў грамадзтве свой уплыў, сваё праменьне, сваю ўладу, якой ніколі ня мела.

Дзеля таго ў гэтым часе, калі чалавецтва пераживае такую глыбокую зьмену, жанчыны пранікнутыя духам Эвангельля могуць так многа памагчы, каб чалавецтва не падупала.



*Сп-ня Сэньі ад імя жанчын прыймае Пасланьне Сабору. «Пільнуйце, каб у будучыні не загінуў людзкі род!»*

Вы, жанчыны, заўсёды стойце на старожы хатняга вогнішча (зьніча), любові да крыніцы жыцьця, да значэньня калыскі. Вы прысутны пры таямніцы пачатку жыцьця. Вы пацяшаеце пры надыходзе сьмерці.

Нашай тэхніцы пагражае тое, што яна станецца нялюдзкай. Вы пагадзіце людзей з жыцьцём. А перад усім будзьце прытомныя — мы вас упрошваем — дбайце аб будучыні нашага роду. Паўстрымайце руку мужчыны, які ў хвіліну шалу імкнуўся-б зьнішчыць людзкую цывілізацыю.

Жанкі, маткі сем'яў, першыя выхавацелькі чалавечага роду ў цішыні хатняга вогнішча, перакажэце традыцыі вашых айцоў вашым сыном і дочкам, адначасова шыкуючы іх да неспазнанай будучыні. Памятайце заўсёды, што маці праз сваіх дзяцей належыць да тэй будучыні, якую магчыма сама не ўбачыць.

Таксама і Вы, жанчыны адзінокія, ведайце тое, што можаце споўніць усё сваё прызваньне ў самаахвярнасьці. Грамадзкасьць заклікае Вас з усіх бакоў. І нават сем'і ня могуць абыйсьціся бяз помачы тых, што сем'яў не маюць.

І Вы перад усім, дзевы пасьвячаныя Богу ў сьвеце, дзе эгаізм і шуканьне прыемнасьці становіцца правам, станьце на старожы чыстасьці, бескарысьлівасьці, пабожнасьці. Ісус, даючы любові ў жанімстве ягоную паўнацэннасьць, таксама падвысіў адрачэньне ад тэй людзкой любові, калі гэтае дзеіцца з безгранічнай любові і з мэтаю службы ўсім (людзям).

Нарэшце Вы, жанчыны, дазнаўшыя гора, што стаіце пад крыжам на падабенства Дзевы Марыі: Вы, якія так часта ў гісторыі дадавалі мужчынам моцы змагацца да канца, каб сьведчылі аж да мучаніцтва, — успамажэце іх яшчэ адзін раз, каб захавалі сьмеласьць у вялікіх справах, а прытым такжа цярплівасьць і пачуцьце пакорнага пачатку.

О, Вы жанчыны, якія ўмееце праўду ўчыніць салодкай, мілай, даступнай, — прычынецеся да таго, каб дух гэтага Сабору пранікнуў ува ўсе інстытуцыі, у школы, у хатнія вогнішчы — ў іхным штодзённым жыцьці!

Жанчыны ўсяго сьвету, хрысьціянкі і няверучыя, Вы, якім ёсьць даверана жыцьцё ў гэтай найважнейшай хвіліне гісторыі, ад Вас залежыць ўратаваньне сусьветнага супакою!

## ДА РАБОТНІКАЎ

Падчас гэтага Сабору каталіцкія Біскупы із пяці кантынэнтаў — сярод многіх розных тэмаў — разважалі супольна паважныя справы, якія ставяць перад сумленьнем чалавецтва эканамічныя і сацыяльныя абставіны сучаснага сьвету — суіснаваньне народаў, праблемаў збраеньня, вайны і супакою. І мы цалкам сьведамыя, які ўплыў можа мець разрашэньне гэтых праблемаў на канкрэтнае жыцьцё рботнікаў і работніцаў усяго сьвету. Дзеля таго мы жадаем — у канцы нашых разважаньняў — скіраваць да Вас усіх пасланьне даверу, супакою і прыязьні.

Наймілейшыя Сыны, найперш будзьце пэўныя, што Царква ведае вашыя цярпеньні, вашае змаганьне, вашыя надзеі. Царква высока цэніць цноты, якія ўзвышаюць вашыя душы: адвагу, ахвярнасьць, прафэсыянальнае сумленьне, любоў справядлівасьці. Царква цалкам прызнае бязьмерныя ўслугі, якія — кожны на сваей пляцоўцы — часта самай паганай і найбольш узгарджанай — аддае ўсяму грамадзтву. Царква Вам удзячна і дзякуе Вам нашым голасам.

**У гэтых апошніх гадох Царква ўсьцяж займалася праблемамі — штораз больш заблытанымі — сьвету і працы. І рэха, якое зрабілі на Вас апошнія папскія энцыклікі, пацьвярджае, як душа работніка нашых часоў была згоднаю з душою найвышэйшых кіраўнікоў.**

**Той, які ўбачыў спадчыну Царквы сваімі непараўнальнымі пасланьнямі, папа Ян XXIII, патрапіў знайсьці дарогу да вашых сэрцаў. Ён паказаў з усім бляскам у сваей асобе ўсю любоў Царквы да работнікаў, як і да праўды, справядлівасьці, вольнасьці, любові, на якіх фундуецца супакой у сьвеце.**



*Работнік з Мілану атрымаў Пасланьне Сабору. Царква работнікамі ня толькі займаецца, але такжа турбуецца аб іх долі*

**Гэтае любові Царквы да Вас работнікаў жадаем такжа і мы быць сьведкамі і мы Вам кажам з поўным праканаyньнем нашае душы:**

**Царква ёсьць вашаю прыяцелькай. Даверцеся ёй! —**

**Сумныя непаладкі ў мінуўшчыне лішне доўга падтрымоўвалі недавер і незразуменьне між намі. І Царква і работніцкая кляса праз гэта цярпелі. Сяньня выбіла гадзіна прызьмірэньня і Царква Сабору заклікае Вас, каб ушанавалі яе без прадузятасьці.**

**Царква ўсьцяж стараецца Вас лепш зразумець. Але і Вы павінны старацца з свайго боку пазнаць, чым ёсьць Царква для Вас, работнікаў, якія ёсьць галоўнымі вытворцамі цудоўных зьменаў, што сьвет ведае сяньня. Бо Вы добра ведаеце, што калі адзін магутны духовы подых іх не ажывіць, дык гэтыя зьмены стануцца няшчасьцем чалавецтва — замест каб стацца шчасьцем.**

**Нянавісьць не паратуе сьвету! Ня толькі адным хлебам зямлі чалавек насыціць сябе ў галадзе.**

**Дык прыймеце пасланьне Царквы. Прыймеце веру, якую яна Вам ахвяруе, каб асьвяцілася вашая дарога: гэта ёсьць вера наступніка Пятра і двух тысячаў Біскупаў сабраных на Саборы: гэта ёсьць вера ўсяго хрысьціянскага народу. Няхай яна Вас вядзе! Хай Вам пазволіць пазнаць Ісуса Хрыста, вашага таварыша працы, Вучыцеля і Збаўцы ўсяго чалавецтва.**

**а. Аляксандар Надсон**

# Сьвяты Кірыл Тураўскі

## I
## КІРЫЛ І ЯГО ВЕК

Сьвяты Кірыл, япіскап Тураўскі, быў бяз сумлеву адной з найцікавейшых асобаў свайго часу. З адной стараны з скупых вестак аб ягоным жыцьці перад намі паўстае постаць пакорнага манаха, які ў пошуках адзіноты з Богам вядзе асцэтычнае жыцьцё ў самых яго суровых хвормах. З другой стараны мы бачым чалавека, які сваімі абшырнымі ведамі перавышаў далёка ўсіх сваіх сучасьнікаў ня толькі на Беларусі, але наагул у цэлым усходня-славянскім сьвеце. Сваімі надзвычайнымі прапаведніцкімі здольнасьцямі Кірыл заслужыў сабе на назоў другога Залатавуснага. Ён быў выдатным, хоць і ня вельмі арыгінальным, багасловам у часе, калі багаслоўская думка ў нашай краіне рабіла толькі першыя нясьмелыя крокі. Слава Кірыла, як духоўнага настаўніка, распаўсюдзілася сярод ягоных суродзічаў яшчэ ў часе ягонага жыцьця. Наканец, колькасьць і мастацкі ўзровень твораў Кірыла, якія дайшлі да нас, робяць яго найбольшым з усіх раньніх беларускіх пісьменьнікаў і першым ведамым беларускім паэтам.

Вялікая колькасьць рукапісаў з творамі сьв. Кірыла, якія дайшлі да нас, вымоўна сьведчыць аб ягонай папулярнасьці ня толь-

кі сярод беларусаў, але сярод усіх усходніх і паўднёвых славянаў, пачынаючы ад Ноўгарада аж да Сэрбіі і Баўгарыі.[1] Нажаль гэтага самага ня можна сказаць адносна вестак з жыцьця сьвятога. Адзіны жыцьцяпіс Кірыла, які дайшоў да нас, знаходзіцца ў г. зв. «Пралёгу» і быў напісаны праўдападобна ў 14-тым стагодзьдзі.[2] Ён ёсьць вельмі кароткі, аднак нам пазваляе, пры помачы некаторых вестак з агульнай гісторыі і фактаў узятых з твораў



*Сьв. Кірыл Тураўскі*
*(Ікона ў школе сьв. Кірыла ў Лёндане)*

самога Кірыла, адтварыць жыцьцё Кірыла ў ягоных агульных рысах.

Сьвяты Кірыл, паводле Пралёгу, нарадзіўся ў Тураве і быў сынам багатых бацькоў.

Тураў зьяўляецца адным з найстарэйшых беларускіх гарадоў. Ён успамінаецца ў летапісе першы раз пад годам 980,[3] калі зьяўляўся галоўным горадам беларускага племяні дрыгвічоў. Ляжыць Тураў пры зьліцьці ракі Струменя з Прыпяцьцю, недалёка ад месца, дзе ў Прыпяць упадае з поўначы Случ. Некалі прайходзіў тудэю гандлёвы шлях, які ішоў з Балтыцкага Мора у Чорнае па Нёмане, Случы, Прыпяці і Дняпры. Акрамя Турава, іншымі важнымі беларускімі гарадамі на гэтым шляху былі Горадня і Слуцк.[4] У другой палове 10-га стагодзьдзя Тураў быў сталіцаю незалежнага княства. У 980 г., або крыху пазьней, ён быў аднак заваяваны вялікім кіеўскім князем Уладзімерам і страціў незалежнасьць на больш чым 150 гадоў. Праз увесь гэты час залежнасьці ад Кіева Тураў быў кіраваны цераз князёўскіх намесьнікаў («пасаднікаў»), якія аднак вельмі часта самі належалі да князёўскае сям'і.

Некаторыя князі, якія жылі ў Тураве, былі спалучаныя сямейнымі сувязамі з знатнымі заходнімі і грэцкімі дамамі. Гэта напэўна мела ўплыў на культурнае жыцьцё гораду. Так напрыклад Уладзімер даў Тураў свайму трэйцяму сыну Сьвятаполку[5] (празванаму пасьля Акаянным), які ажаніўся прыблізна ў 1010 г. з дачкой польскага караля Балеслава Харобрага.[6] Разам з нявестаю прыехаў з Польшчы лацінскі япіскап калабжэскі Райнбэрн, які — паводле некаторых аўтараў — спалучаў у сабе апостальскі агонь з цнотамі асцэты і праводзіў жыцьцё ў срогім умярцьвленьні і сталай малітве. Сьвятаполк, жадаючы праўдападобна аддзяліцца ад Кіева, пачаў рыхтаваць паўстаньне супраць свайго бацькі. Уладзімер, даведаўшыся аб гэтым, схапіў Сьвятаполка і ягоную жонку і пасадзіў іх у вязьніцу. Пацярпеў пры гэтым і Райнбэрн, які таксама быў арыштаваны і памёр у вязьніцы. Сьвятаполк выжыў, каб пасьля сьмерці Уладзімера ў 1015 г. захапіць Кіеў-

[1] Поўны абзор рукапісаў з творамі сьв. Кірыла Тураўскага дае Н. П. Еремин у сваім творы «Литературное наследство Кирилла Туровского» (Труды Отдела Древнерусской Литературы АН СССР, т. XI, Масква-Ленінград 1955, бб. 346—367). Аб творах Кірыла ў сэрбскіх і баўгарскіх рукапісах глядзі: В. Н. Адрианова-Перетц, Древнерусские литературные памятники в югославянской писменности. ТОДРЛ, т. XIX, 1963, бб. 9—10.

[2] Пралёг — кніга кароткіх жыцьцяў сьвятых на кожны дзень году. Найстарэйшы ведамы тэкст жыцьця сьв. Кірыла з Пралёгу, перадрукаваны з рукапісу XIV- пачатку XV стаг., знайходзіцца у: Н. К. Никольский, Материалы для истории древнерусской духовной письменности. (Сборник Отд. Русск. Яз. и Слов. Имп. Акад. Наук, т. 82, кн. 8, СПб. 1907, бб. 62—64).

Крыху пазьнейшы і адменны тэкст ёсьць у кнізе «Творения святого отца нашего Кирила епископа Туровского», изд. преосв. Евгения, еп. Минского и Туровского, Кіеў 1880, б. 296. (У далейшым гэты твор будзе прыводзіцца, як Творения...).

[3] «Бо Рагвалод прышоў з-за мора і меў уладу ў Полацку, а Туры ў Тураве: ад яго-ж і пачалі називацца тураўцамі». Полное Собрание Русских Летописей, т. I, Ленінград 1926, стор. 76

[4] Гл. М. Н. Тихомиров, Древнерусские города, Масква 1956, бб. 305—306.

[5] ПСРЛ, т. I, стоўб 121.

[6] *N .de Baumgarten,* Genealogies et Marriages Occidentaux des Rurikides Russes, Rome 1927, bb. 10—11;

*Leib E.,* Rome Kiev et Byzance, Paris 1924, bb. 155—157. Аб Сьвятаполку, ягонай жаніцьбе і ўсей далейшай палітыцы, глядзі абшырна ў: В. Д. Королюк, Западные Славяне и Киевская Русь, Масква 1964, бб. 203—268.

скі пасад і быць галоўным віноўнікам сьмерці сваіх двух братоў, сьвятых Барыса і Глеба, якія былі забітыя на ягоны загад.

Другі князь, які быў у Тураве, Яраполк, ажаніўся прыблізна ў 1073 г. з Кунэгундай, дачкой нямецкага графа Отто з Орлямундэ.[7] У 1087 г. ён быў падступна забіты адным сваім слугою ў часе, калі вяртаўся з ваеннага паходу. Летапісец адзываецца аб ім вельмі цёпла, як аб добрым, справядлівым і пабожным князю, які любіў бедных і шмат нацярпеўся ў часе свайго жыцьця. Ён пакінуў пасьля сябе прынамсь адну дачку, якая пасьля вышла замуж за аднаго знатнага немца, Гонт'ера з Турынгіі.

Малодшы брат Яраполка, Сьвятаполк II, жыў у Тураве ад 1087 да 1093 г., пасьля чаго ён сеў на вялікакняжы пасад у Кіеве. Ягоная другая (або трэцяя) жонка, Барбара, была грэцкай княжной, спалучанай сямейнымі сувязямі з імпэратарскім домам Камнэнаў. Пасьля сьмерці свайго мужа ў 1113 г. Барбара пераехала жыць у Тураў. Там яна заладжыла жаночы манастыр сьв. Барбары, дзе і была пахаваная пасьля сваей сьмерці ў 1124 г.[8]

У Тураве быў адзін з першых япіскапскіх пасадаў на Беларусі. Ёсьць весткі, быццам тураўскае япіскапства было заложанае ў 1005 г. і што першым япіскапам быў там нейкі Тамаш. Нажаль сяньня няма магчымасьці спраўдзіць, наколькі гэтыя весткі ёсьць праўдзівыя.[9] Гісторыя тураўскага пасаду ў 12-тым стагодзьдзі ёсьць далёка лепш ведамая. У жыцьці благаслаўлёнага Марціна Тураўскага,[10] пабожнага манаха і старэйшага сучасьніка нашага Кірыла, падаюцца імёны чатырох тураўскіх япіскапаў, у якіх Марцін быў кухарам. Вось яны: Сымон, Ігнат, Якім і Георгі. Аб Якіме мы маем у Іпацьеўскім летапісе дадатковыя весткі, паводле якіх ён быў япіскапам тураўскім ад 1144 да 1146 году.[11] Георгі быў праўдападобна беспасрэдным папярэднікам Кірыла.

Год 1157 быў годам вялікіх падзеяў для Турава. У гэтым годзе князь Юры Яраславіч (унук Сьвятаполка II), які быў ізгоем, г. зн. князем без удзелу, выгнаў Барыса, сына кіеўскага князя Юрага Даўгарукага, і абвясьціў Тураў незалежным княствам. Два разы кіеўскія князі з саюзьнікамі хадзілі з вайною супроць Турава. Відаць аднак, што жыхары гэтага гораду, якім напрыкрылася панаваньне князёўскіх намесьнікаў, добра баранілі сваю новаздабытую незалежнасьць. Ня могучы нічога зрабіць, кіеўскія князі павінны былі нарэшце прызнаць існаваньне Тураўскага Княства.[12]

У часе здабыцьця сваей незалежнасьці Тураў быў вялікім горадам. Паводле некаторых гісторыкаў, ён тады меў каля 40 цэркваў і манастыроў.[13]

Дзейнасьць сьвятога Кірыла прыпадае якраз на гэты першы пярыяд незалежнасьці ягонага роднага гораду.

У Пралёгу не гаворыцца, калі нарадзіўся Кірыл. Паколькі аднак, як будзе відаць ніжэй, ён быў япіскапам ужо ў 1169 г. і павінен быў тады мець каля 40 гадоў (бо малодшых

---

[7] *Baumgarten*, op. cit.; Leib, op. cit., b. 164. Гэты апошні не падае імяні мужа Кунэгунды.

[8] *Baumgarten*, op. cit.; Творения..., б. VIII (уступ).

[9] Першы раз гэтая вестка спатыкаецца ў г. зв. «Запавеце благаславёнага Уладзіміра для Тураўскай япіскопіі» ў Кіеўскім Пацерыку Язэпа Трызны (1647-1655). Там гаворыцца, што князь Уладзімір «трэцюю багамольную япіскопію устанавіў у Тураве ў лета 6513 (г. зн. 1005) і даў ей гарады і пагосты... і паставіў першага япіскапа Тамаша...» (паводле Е. Е. Галубінскага, «История Русской Церкви, том I, поўтом I, Масква 1901, б. 681).

Ня гледзячы на познасьць весткі, Галубінскі, а перад ім Макары (История Русской Церкви, т. I, СПб. 1858, б. 26), схіляюцца да таго, каб лічыць яе праўдзівай.

У кожным выпадку выглядае, што Тамаш, калі ён і быў, ня меў па сабе наступнікаў аж да пачатку XII-га стаг.

[10] Сказание о Туровском мнихе Мартине. Тэкст у «Творения...», б. 295.

[11] ПСРЛ. т. II, стаўпы 314 і 330.

Для паўнаты варта зацеміць, што летапісы гавораць аб высьвячэньні ў япіскапы ў 1114 г. некага Кірыла (ПСРЛ. т. I, ст. 290). Хоць там не ўспамінаецца пасаду, але шмат хто ўважае, што ён быў япіскапам тураўскім.

Тацішчаў падае, што ў 1146 г. быў назначаны на Тураўскі пасад нехта Іван (В. Н. Татищев, история Российская, выд. АН СССР, т. II, Масква-Ленінград 1963, б. 151).

Такім чынам ліста Тураўскіх япіскапаў да сьв. Кірыла выглядае наступна: Тамаш( сумніўны, 1005-?), Кірыл I (сумніўны, 1114-?), Сымон, Ігнат, Якім (1144-1146), Іван (сумніўны, 1146), Георгі (1146-прыб. 1169) і нарэшце наш сьв. Кірыл (1169-1182 прыб.). Пасьля сьв. Кірыла япіскапам быў Лаўрын (1182-?).

[12] Першая вайна была ў 1158 г. Кіеўскі князь Ізяслаў і яго саюзьнікі стаялі 10 тыдняў пад Туравам, спустошылі аколіцы, але гораду ўзяць не маглі. Нарэшце пачаўся мор сярод коней і яны павінны былі вярнуцца дамоў з нічым, шмат хто пехатою (ПСРЛ, т. II, ст. 491-2). Другая вайна была ў 1160 г. і трывала толькі два паловаю тыдні. Гэтым разам Тураўцы таксама ўмелі абараніць сваю незалежнасьць. (ПСРЛ, т. II, ст. 510).

[13] Гл. *К. Т. Калайдович*, Памятники Российской словесности XII-го века. Масква 1821, б. XII (уступ).

Усе старыя тураўскія сьвятыні ўжо даўно ня існуюць. Вось сьпісак тых цэркваў і манастыроў, назовы якіх захаваліся да нашага часу:

Найстарэйшымі сьвятынямі былі напэўна цэрквы сьвятога Спаса і Багародзіцы, аб якіх успамінаецца ў «Запавеце благаславёнага Ўладзіміра». Акрамя гэтага ёсьць ведамымі царква і манастыр сьв. Зьмітра, царква сьв. Пятра (збудованая Яраполкам) і царква Архістраціга Міхала (збудаваная Сьвятаполкам II). У XII-тым стаг. існаваў у Тураве япіскапскі манастыр сьв. Барыса і Глеба і манастыр сьв. Міколы. У гэтым апошнім быў манахам наш сьв. Кірыл. Да гэтай лісты трэба яшчэ дадаць жаночы манастыр сьв. Барбары (гл. вышэй).

звычайна не пастаўлялі у япіскапы), дык выглядае, што ён нарадзіўся не пазьней, чым у 1130 г., а магчыма раней.

Кірыл быў чалавекам вялікай асьветы. Ягонае веданьне Сьвятога Пісьма было настолькі выдатным, што некаторыя аўтары не вагаюцца лічыць яго найлепшым біблістам сярод усіх раньніх усходнеславянскіх пісьменьнікаў.[14] Ягоныя творы ёсьць ня толькі перасыпаныя выняткамі з сьв. Пісьма, але часам цэлыя сказы зьяўляюцца ня чым іншым, як выражэньнямі ўзятымі з розных частак Бібліі і па мастацку зьвязанымі ў адно цэлае, каб выразіць думку аўтара. Ня менш добра Кірыл быў знаёмы з творамі ўсходніх айцоў Царквы. Хоць ён ніколі не ўспамінае прозьвішчаў аднак у ягоных творах ёсьць відавочны ўплыў такіх вялікіх царкоўных пісьменьнікаў, як сьв. Ян Залатавусны, Рыгор Багаслоў, Кірыл Александрыйскі, Эпіфані Кіпрскі, Прокл Александрыйскі і інш. Безумоўна, усю гэтую веду Кірыл мог здабыць, будучы ўжо ў манастыры. Яму нават ня трэба было ведаць грэцкай мовы, бо ў тым часе вялікая колькасьць твораў вышэй упомненых айцоў існавала ўжо ў славянскім перакладзе, прыйшоўшы да нас з Баўгарыі. З другой стараны знаёмства Кірыла з такімі пазьнейшымі бізантыйскімі царкоўнымі пісьменьнікамі, як Тэафілякт Баўгарскі і Мэтафраст, творы якіх былі даступныя толькі ў грэцкім арыгінале, сьведчыць аб тым, што наш сьвяты ведаў добра грэцкую мову. Акрамя грэцкай мовы, Кірыл ведаў рыторыку і ў дасканаласьці вывучыў і апанаваў мастацкія прыёмы бізантыйскіх пісьменьнікаў таго часу. Усё гэта прымушае думаць, што будучы яшчэ юнаком, ён атрымаў добрую асьвету пад кіраўніцтвам дасьведчанага настаўніка, праўдападобна грэка. Магчыма на раньні пачатак навукі хацеў паказаць аўтар Пралёгу, гаворачы, што яшчэ да паступленьня ў манастыр Кірыл «ня ўзлюбіў багацьця і пераходнай славы гэтага сьвету, але больш за ўсё ён прылажыўся да вывучэньня Боскіх кнігаў і добра пазнаў Боскія пісаньні».

Дванаццатае стагодзьдзе было векам культурнага росквіту нашай краіны і Кірыл ня быў адзінай адукаванай асобай на Беларусі, хоць ён і перавышаў сваіх сучасьнікаў ведамі і здольнасьцямі. Хопіць успомніць, што сучасьнікамі Кірыла былі сьв. Еўфрасіньня Полацкая і Клімэнт Смаляціц, а сьв. Аўрам Смаленскі жыў толькі крыху пазьней. Ёсьць таксама весткі, што у другой палове 12-га стаг. ў Смаленску існавалі школы, заложаныя князем Раманам Расьціслававічам.[15] Падобныя школы напэўна існавалі і ў іншых мясцовасьцях, асабліва пры манастырах і япіскапскіх пасадах, хоць вестак аб іх не захавалася. Акрамя школаў, ведамыя ёсьць таксама прыклады і прыватнай асьветы.[16]

Беларусь у 11-тым і 12-тым стаг. была цесна зьвязаная з Бізанцыяй, бо увайходзіла ў склад Кіеўскай Мітраполіі, якая залежала ад Канстантынопальскага Патрыярха. Амаль усе мітрапаліты і большасьць япіскапаў былі грэкамі. Бізанцыя ў тым часе перажывала культурнае адраджэньне пасьля іканаборскіх прасьледаў у палове 11-12 стаг. Ажывіўся зноў стары канстантынопальскі унівэрсытэт пад кіраўніцтвам аднаго з найбольш цікавых вучоных сярэднявякоўя, Міхася Псэльляса. На чале школы права стаяў ня менш ведамы вучоны Ксыфілінос. Навучаньне на унівэрсытэце было дармовым і студэнты, якія пасьпяхова закончылі навуку, мелі запэўненыя высокія становішчы ў дзяржаўнай адміністрацыі ці ў судаўніцтве. Сярод бізантыйскіх багасловаў таго часу трэба ўспомніць Эўтыма Зонараса, аўтара «Зброі Праваслаўнага» і Тэафілякта Баўгарскага, ведамага перадусім з сваіх паясьненьняў да сьв. Пісаньня. У пачатку 12-га стаг. жылі таксама такія выдатныя пісьменьнікі, і гісторыкі, як Анна Комнэна, Нікіта Акомінатос, Ян Зонарас і шмат іншых. Грэцкіх настаўнікаў можна было спаткаць у ўсім цывілізаваным сьвеце. На захадзе іх прыймалі і слухалі з пашанаю. Было іх нямала напэўна і на Беларусі, куды яны прыяжджалі разам з мітрапалітамі і япіскапамі.

Такім чынам няма нічога дзіўнага, што Кірыл меў нагоду здабыць добрую асьвету. Вельмі магчыма, што яму нават ня трэба было шукаць яе нідзе паза родным горадам. Тураў у тым часе быў добрым культурным цэнтрам: там быў япіскапскі пасад і шмат манастыроў. Ды і ня так даўно там жыла грэцкая княжна Барбара, і ў яе акружэньні былі вучоныя асобы, якія-б маглі пакіраваць асьветаю здольнага юнака.

Будучы сынам багатых бацькоў, Кірыл аднак «ня ўзлюбіў багацьця і пераходнай славы гэтага сьвету». Яшчэ ў маладым веку ён пастанавіў пасьвяціць сваё жыцьцё Богу і ўступіў у Манастыр. Хоць жыцьцяпісец ня ўспамінае назову гэтага манастыра, але ў адным з пазьнейшых рукапісаў гаворыцца аб Кірыле, як аб манаху манастыра сьв. Міколы ў Тураве.[17]

---

[14] *G. P. Fedotov,* The Russian Religious Mind, New York 1960, b. 71.

[15] *Татищев,* op. cit., т. III, б. 129.

[16] Больш аб асьвеце ў XII-тым стаг. гл. артыкул *Н. С. Чаева,* «Просвещение', у книзе «история культуры древней Руси», пад рэд. Н. Н. Вароніна і М. I. Каргера, т. II, Масква-Ленінград 1951, бб. 216-244.

[17] «Малітвы уміленьня недастойнага і больш за ўсіх грэшнага манаха Кірыла ў сьвятога Міколы ў Тураве...». Гл. «Творения...», б. LXXX (уступ).

У манастыры Кірыл «стараўся больш за ўсіх дагадзіць Богу і, падпарадкаваўшы сабе цела пастом і малітвамі, зрабіў з сябе дастойнае жыльлё Сьвятога Духа». Сваім спосабам жыцьця, пабожнасьцю і, без сумніву, вучонасьцю, ён хутка зьвярнуў на сябе ўвагу іншых, і да яго пачалі прыхадзіць, каб паслухаць рады ці павучэньня. Хоць сам ён меў нахіл да жыцьця ў адзіноце, Кірыл аднак ніколі не адмаўляўся памагчы іншым, маючы моцную сьведамасьць грамадзкага характару хрысьціянства. Цікава, што хоць Кірыл сам вёў вельмі срогі спосаб жыцьця, аднак у сваіх павучэньнях ён рабіў націск не на вонкавыя хвормы асцэтызму, але на нутраныя цноты пакоры і паслушэнства. Вось што кажа аб гэтым жыцьцяпісец: «(Кірыл) прынёс карысьць для многіх сваей навукаю, заахвочваючы манахаў да пакоры і каб былі паслушнымі ігумену, быццам Богу, бо манах, які ня слухае ігумена, якому ён прырок (паслушэнства), ня можа быць збаўленым».

Асабістыя склоннасьці цягнулі аднак Кірыла да большай адзіноты і таму, пасьля некаторага часу супольнага жыцьця ў манастыры, ён «жадаючы яшчэ большых подзьвігаў, увайшоў у стоўп і там зачыніўся». Стоўпніцтва зьяўляецца адной з найбольш суровых хвормаў асцэтычнага жыцьця. Яго практыкавалі ў пятым стагодзьдзі некаторыя манахі на Блізкім Усходзе і ў Бізанцыі. У пошуках большай адзіноты, яны будавалі свае кельлі на плятформе, якая на адным або больш стаўпах узвышалася над зямлёю. Таму яны іназываліся стоўпнікамі, або па грэцку стылітамі (ад грэцкага слова стылёс — стоўп). Самымі ведамымі з гэтых асцэтаў былі сяв. Сымон Стоўпнік (390—459) і ягоны вучань сьв. Даніла Стоўпнік (409-493). КлімАтычныя ўмовы Беларусі не пазволілі-б ніводнаму чалавеку весьці падобны спосаб жыцьця. Дзеля гэтага «стоўп» нашага Кірыла быў напэўна не стаўпом, але стаўпападобнай кельляй, або маленькай вежай (па грэцку пыргос), дзе ён зачыніўся.

Пярыяд стоўпніцтва быў для Кірыла часам яшчэ больш інтэнсыўнага духовага жыцьця і ня менш інтэнсыўнай умысловай дзейнасьці. Аўтар Пралёгу кажа, што ў стаўпе Кірыл «яшчэ больш трудзіўся пастом і малітвамі, і паясьняў шматлікія сьвятыя пісаньні». Вельмі магчыма, што ў гэтым часе Кірыл напісаў свае малітвы і каноны, а таксама некаторыя творы аб духовым жыцьці.

Як вельмі часта здараецца ў падобных выпадках, пошукі адзіноты мелі зусім адваротны вынік. Кірыл стаўся настолькі ведамым, што калі памёр Тураўскі япіскап Георгі, дык князь і ўвесь народ прасілі аднагалосна Мітрапаліта назначыць яго на Тураўскі пасад.[18]

Як япіскап, Кірыл, паводле словаў жыцьцяпісца, «працаваў шмат для Царквы Божае». Інтэнсыўная пастырская дзейнасьць не перашкаджала яму браць удзел таксама і ў справах, якія датычылі ўсей Кіеўскай Мітраполіі, да якой належала і Тураўская епархія. У 60-тых гадох дванаццатага стагодзьдзя ў гэтай мітраполіі паўстаў закалот з прычыны некага Тодара, або Тодарца, які подступам атрымаў беспасрэдна ад Канстантынопальскага Патрыярха назначэньне на Растоўскі пасад, абмінаючы пры гэтым Кіеўскага Мітрапаліта, які быў ягоным беспасрэдным зьверхнікам. У сваіх паступках Тодар меў магутнага апякуна ў асобе ўладзімірскага князя Андрэя Багалюбскага. Гэты князь, які аставіў па сабе нядобры ўспамін, хацеў дзеля палітычных мэтаў мець у сваім княстве асобую царкоўную правінцыю, магчыма нават мітраполію, незалежную ад Кіева. Мітрапаліт Кіеўскі ня прызнаў назначэньня Тодарца на Растоўскі пасад, адлучыў яго і забараніў усім сьвятаром і верным мець нешта супольнага з ім. У адказ на гэта Тодарац, пэўны у князёўскай апецы, пачаў прасьледаваць сваіх праціўнікаў і адначасова прапаведваць пэўную неазначаную бліжэй гэрэзію. Яму аднак прыйшлося горка дасьведчыць, як няпэўным ёсьць лёс тых, якія надзеюцца на ласку сьвецкіх уладароў. Андрэй зьмяніў сваю палітыку і пачаў шукаць пагадненьня з Мітрапалітам. Ён арыштаваў Тодарца і адправіў яго ў Кіеў на мітрапалічы суд. Там ён быў асуджаны і памёр лютай сьмерцю.[19] Гэта здарылася ў траўні 1169 году.

Кірыл, які меў вельмі высокае паняцьце япіскапскай годнасьці, не астаўся збоку ад гэтай сумнай справы. Вось што піша аб гэтым жыцьцяпісац: «Адносна-ж Тодарца, так пагардліва празванага, дык благаслаўлёны Кірыл раскрыў ягоную ерась пры помачы Боскіх пісаньняў і пракляў яго». Да нас дайшоў адзін твор сьвятога Кірыла супраць Тодарца. Ён называецца «Прыповесьць аб кульгавым і аб сьляпым». Кірыл бароніць у ім годнасьць япіскапскага стану супроць тых, якія недастойна яго жадаюць. Акрамя гэтага ў Пралёгу ўспамінаецца, што Кірыл напісаў шмат лістоў да Андрэя Багалюбскага. Гэтыя лісты да гэтага часу ня знойдзеныя. Вельмі маг-

[18] Тураўскім князем быў тады праўдападобна ўжо Сьвятаполк (1167-90) сын Георгія Яраславіча, які здабыў незалежнасьць для гораду. Кіеўскім мітрапалітам быў грэк Кастусь II (1167-?).

[19] На загад Мітрапаліта Кастуся, яго завезьлі на «Песі востраў» на Дняпры, адрэзалі правую руку і язык і выкалолі вочы (ПСРЛ., т. I, ст. 356; т. II, ст. 552-3). Праўда, летапісец кажа, што раней Тодарац абыходзіўся ня менш нялюдзка з сваімі праціўнікамі (гл. ПСРЛ, т. I, ст. 356). Усё гэтае здарэньне зьяўляецца сумным дакумэнтам абычаяў таго часу.

чыма, што ў іх сьвяты дакарае князя за ягоныя недастойныя паступкі ў справе Тодарца і за разьбіваньне царкоўнай еднасьці.[20]

Справа Тодарца пазваляе нам між іншым устанавіць прыблізны час, калі Кірыл стаў япіскапам. З аўтарытэтнага тону «прыповесьці аб кульгавым і сьляпым» і з вышэй прыведзенай зацемкі з Пралёгу (Кірыл пракляў Тодарца), выглядае што ў часе сваіх выступленьняў супроць Тодарца быў ужо япіскапам. Гэтыя выступленьні былі перад арыштам гэтага апошняга, які меў месца 8-га траўня 1169 г.[21] Такім чынам сьвяты Кірыл быў ужо япіскапам не пазьней, чым у пачатку 1169 г.

Час япіскапства Кірыла быў часам ажыўленай пісьменьніцкай дзейнасьці, якая напэўна была цесна зьвязаная з ягонымі пастырскімі абавязкамі. Жыцьцяпісец успамінае, што ён напісаў «павучэньні на тэмы Евангельля і прарокаў, казаньні на Гасподнія сьвяты і шмат іншых твораў карысных для душы, а таксама малітвы і пахвалы шматлікім сьвятым». Маючы на ўвеце дабро іншых, Кірыл «напісаўшы ўсе гэтыя творы, перадаў іх Царкве, якая захавала іх да сяньняшняга дня дзеля пацяшэньня і павучэньня верных усяе Русі».

Нажаль з усіх вышэй успомненых твораў, якія Кірыл напісаў, будучы ужо япіскапам (павучэньні, казаньні, пахвалы сьвятым), да нас дайшло толькі восем казаньняў на нядзелі і сьвяты Вялікоднага пярыяду. Магчыма далейшыя пошукі адкрыюць іншыя загубленыя скарбы духовай і літаратурнай спадчыны нашага сьвятога.

Пралёг не дае нам больш ніякіх вестак з япіскапскай дзейнасьці Кірыла. Канчаецца ён коратка, не забыўшыся аднак успомніць у пару словах, што Кірыл аставіў пасьля сябе памяць добрага і дбайлівага пастыра: «Такім чынам, пажыўшы чэсна і пабожна, і дбайліва пасучы паручанае яму стада, ён перайшоў да жыцьця вечнага і безканечнага».

У жыцьці Кірыла няма нічога аб даце сьмерці. З летапісу аднак ведама, што на пастрыжэньні ў манахі новага ігумена Кіева-Пячэрскай Лаўры Васіля ў 1182 г. быў прысутны, сярод іншых царкоўных дастойнікаў, Тураўскі япіскап Лаўрын.[22] Такім чынам трэба прыпушчаць, што ў гэтым годзе Кірыла ня было ужо ў жывых. Думка некаторых вучоных, быццам Кірыл адрокся Тураўскага пасаду і пайшоў зноў у манастыр, ня мае дастатковых даных.

Найстарэшы ведамы сьпісак жыцьця сьв. Кірыла паходзіць з канца 14-га або з пачатку 15-га стаг. Такім чынам ягонае напісаньне трэба аднесьці да 14-га або нават, паводле думкі некаторых гісторыкаў, да канца 13-га стагодзьдзя.[23] У тым часе культ сьвятога Кірыла быў распаўсюджаным сярод усіх усходніх славянаў. Безумоўна ў самым Тураве яго лічылі сьвятым далёка раней, магчыма адразу пасьля ягонай сьмерці. Вось прыгожая малітва, якою канчаецца жыцьцё нашага сьвятога ў Пралёгу:

«Радуйся, слаўны сьвяціцелю, настаўнік, другі Залатавусны, які зазьзяў больш за ўсіх на Русі. Радуйся ты, што сваім сьветлым вучэньнем усе куткі Русі прасьвяціў. Радуйся ты, што, як сонца, прынёс сьвятло Боскай навукі для тых, што сядзелі ў цемры. Мы ўзносім да цябе ў малітве гэтую пакорную просьбу: маліся за нас Усявышняму, у чыёй прысутнасьці ты асьмельваешся знайходзіцца, каб Ён выбавіў нас ад цяперашніх напасьцяў і вызваліў ад бязбожных агаранаў,[24] якія мучаць нас бязустанку. Зрабі таксама, каб мы тваімі малітвамі маглі атрымаць міласьць і адпушчэньне грахоў і насьледзтва вечных добраў у будучым жыцьці ў Хрысьце Ісусе Госпадзе Нашым».

Памяць сьвятога Кірыла сьвяткуецца 28-га красавіка.

---

[20] факт перапіскі скромнага тураўскага япіскапа з гордым князем не павінен нас дзівіць. У сваей маладасьці Андрэй бываў у Тураве, калі ён атрымаў гэты горад разам з Пінскам, Дарагабужам і Перасопніцай ад свайго бацькі Юрага Даўгарукага ў 1151 г. Магчыма ён і сьв. Кірыл ведалі адзін другога з таго часу.

[21] Летапісы падаюць розныя даты арышту Тодарца. Паводле Лаўрэнцеўскага Летапісу гэта здарылася 8-га траўня 1169 г. (ПСРЛ, т. I, ст. 355), а паводле Іпацієўскага — 8-га траўня 1172 г. (ПСРЛ, т. II, ст. 552). Звычайна прыймаецца першая дата.

[22] ПСРЛ, т. II, стоўп 627.

[23] Гл. *Е. Е. Голубинский,* История канонизации святых Русской Церкви. (Чтения в Обществе истории и Древностей Российских, Москва 1903, кн. I, б. 140).

[24] Г. зн. татараў.

**(Далей будзе)**

а. Я. Г.

# Мае прыяцелі — В. Аношка

Вацлаў Аношка, чалавек энэргічны і дзейны, а прытым прыкладны сьвятар, шчыры, пабожны, міласэрны і гарачы беларускі патрыёт, быў добра ведамы ў духавенстве і народзе, асабліва на тэрыторыі Наваградчыны і Піншчыны. Нават ворагі нашага народу ня ведалі, як да гэтага сьвятара прыступіцца і што яму закінуць: ён быў ім непажаданы і клапатлівы, але ня ўмелі яго «ўзяць у рукі». Ён як сьліж высьлізгіваўся з рук і з кіпцюроў.

Мне здарылася спаткацца з Аношкам пару разоў то ў Вільні, то ў Пінску, але бліжэй згаварыцца зь ім не ўдавалася. Ён — такі непаседа — з адным гаварыў, а паглядаў на ўсе бакі: то сьмяяўся, то спрачаўся, а то патаківаў — толькі-ж ня вычэрпываў тэмы, бо думкі яго, відаць, залята̀лі далёка ўперад. — Аднак мне трэба было пазнаць яго працу бліжэй і я ў 1932 вясною — паміма вялізных перашкодаў — дабраўся да Альпеня. — З Друі праз Браслаў, Вільню, Ліду, Лунінец да Століна, здаецца, 4 перасядкі! Із Століна аўтабусам (40 км., фатальная дарога і пагода — дождж, балота і позны вечар) ехалі да Давідгарадка. Тут трэба было адпачыць, але начаваць у лацінскага ксяндза мне не ўдалося, а фурманкі ў Альпень ня было, дык я пастанавіў пайсьці ў Альпень пехатою 5 вёрст: наняў праваднiка, старога дзеда, і мы зь ім падыбалі па лугох бяз ніякіх дарожак. На счасьце на лугу быў яшчэ лядок — праўда, сьлізка, цёмна і дождж і вецер — нам бедным — у вочы. Так прайшлі мы слаўна і памятна мне дасюль, бо дзядок удаўся гаманлівы.

Ну, і прыйшлі мы ў Альпень ля гадзіны 11-ай і, ведама, а. Аношку дома не знайшлі: ён быў «на людзях», як звычайна. Нам добрая гаспадыня хутка ўшыкавала вясковы пачастунак, а гаспадару схавала запасную вячэру і ён, зара надыйшоўшы, ладзіў сабе «Вялікае Павечэрые».

Гасьціў я ў Аношкі некалька дзён і пазнаў ягоныя манеры. Ён браў і мяне на свае экскурсіі. Аднойчы ў вялікай вёсцы Аношка разаслаў пасланцоў склікаць людзей на вячэрню, якую ён служыў у аднэй большай хаце — паводле ўсходняга абраду, бо ён сам быў сьвятаром грэка-каталіцкага абраду і меў у Альпені немалую парахвію. — Сабраліся людзі, знайшліся сьпевакі, сьвечкі, — значыць, вячэрня зладзілася сапраўды пабожная. Была і ягоная прамова, поўная гарачае любові да Бога і да людзей.

У нядзелю а. Аношка служыў позьнюю Літургію, а казань загадаў гаварыць мне, ведама, па беларуску, бо ў Альпені ён начай не гаварыў. — Стоячы на ўзвысшэньні, я пачаў: «У Імя Айца і Сына і Сьвятога Духа!» — Наперадзе стаіць старэнькая бабка і голасна паўтарае кожнае слова. — Далей я кажу: «Дарагія Браты!» І яна паўтарае тое самае . . . — І так мы зь ёй сказалі ўсю прамову. Прастата і пабожнасьць гэтае бабулькі была такая шчырая, што — трэба думаць — яе казаньне было палічана ў небе вышэйшай цаною як маё.

Добры прыклад пастырства а. Аношкі меў вялікі ўплыў на ўвесь народ і на суседняе духавенства. Рэдка дзе мне здаралася спатыкаць такіх шчыра пабожных і ахвярных сьвятароў. Аношка ня жыў для сябе: ён жыў цалкам для Бога і для народу. Гэта яшчэ ясьней выявілася ў наступнай парахвіі Аношкі, у Дэлятычах. Я, праўда, там ня быў, але расказываў мне адзін сьвятар, які сутыкаўся з Аношкам часьцей, асабліва падчас нямецкае акупацыі.

У Дэлятычах быў сарганізаваны вельмі сымпатычны царкоўны хор, які таксама выступаў і на сьвецкіх зборках — у сваей парахвіі і вонках. Сьпевакі былі шчырымі патрыётамі, асабліва іх умелы і дзейны дырыгент.

Аношка ахвотна аддаваў увесь свой час, фатыгу і сродкі на ўсё, што прычынялася да Божае хвалы, да патрэбаў грамадзтва, сем'яў і паасобнікаў. Хоць афіцыяльна ён ня быў манахам, аднак у прыватным сваім ладзе і ў публічным жыцьці — ў сэнсе самаахвярнасьці — перавышаў усякіх асцэтаў. Нічога ня ўважаў за сваё: найбольш патрэбную сабе рэч ён бяз ніякага сумніву і з радасьцяй аддаваў другім. У гэтым значаньні — можамо спадзявацца — жыў наскрозь паводле Хрыстовага Эвангельля: «Што вы ўчынілі аднаму з найменшых, вы гэта ўчынілі Мне». Значыць, можна быць пэўным, што Хрыстовы іспыт на Божым Судзе выпадзе Аношцы роўна зь вялікімі Сьвятымі.

Падчас апошняе Вялікае вайны Аношка перажываў — можа больш ад іншых — вялізныя труднасьці. Не маючы сьвецкай хітрасьці і зручнасьці, ён у прастаце духу няраз падпадаў пад фальшывую ацэнку так з боку партызанаў, як і немцаў. А найгоршы лёс спаткаў беларускія вёскі, якія мелі ў суседзтве лясы і балоты: жыхары муселі знайсьці адзіную раду толькі ў помачы Божай і ў сваей прыроднай мудрасьці. — Узброеныя партызаны надыходзілі начамі, а ненавісныя немцы — ў ясны дзень. І адны мсьцілі за другіх: з

абодвых бакоў пагражалі арышты, забойствы і пажары. А немцы палілі вёскі разам з усімі людзьмі. — А хто-ж сьмеў адмовіць сваіх прадуктаў, ежы і іншых партызанам, або — тымбольш — немцам?

Дык вось такі ахвярны чалавек, як наш Аношка, нечым не дагадзіў партызанам і яго павялі ў лес на расправу. Аднак і парахвіяне і вакольныя людзі — свае і чужыя — зрабілі такі націск на партызанаў, што Аношка мог бяз шкоды вярнуцца дамоў.

Хоць пасьпешны і дзейны-спагадлівы ўсюды, Аношка не адзначаўся ані мудрасьцяй, ані спрытам і ягоныя рады часта ня бывалі практычнымі, то аднак усе цанілі ягонае самарытанскае сэрца.

*

Чаму і як Аношка адарваўся ад дарагіх ягонаму сэрцу Дэлятыч, ня можам разгадаць. І толькі пасьля вайны я даведаўся, што ён жыве ў Польшчы, недалёка Варшавы; а нават у 1959 годзе аказаўся маім недалёкім суседам і мы маглі пару разоў спатыкацца — то ў мяне, то ў яго. Але я ўбачыў у ім якбы іншага чалавека.

Ён аказаўся капэлянам у Сясьцёр-законніцаў «Сям'і Марыі», а я ў Сясьцёр Уршулянак у Хыліцах.

Аношка пачуваўся як старое перасаджанае дрэва на чужы і дрэнны грунт. Як тое нешчаснае дрэва, якое вырвалі гвалтоўна і пасьпешна з роднае зямлі: прытым карэньні былі падсечаныя і паабрываныя . . . Ён — чалавек адданы ўсходняму абраду, мусеў служыць у лацінскім абрадзе і адмаўляць — у непрывычцы — лацінскі «Брэвіяр»-Часаслоў і стала жыць між палякамі, не спатыкаючы сваіх суродзічаў. —

Праўда, Аношка не страціў сваей прыроднай рухавасьці: таксама аддаваўся добрым учынкам, каб памагчы людзям, асабліва дзецям. Аднак ягоная праца была падобна да працы млына, ў які — замест пшаніцы і жыта — засыпаў-бы хто труху і мякіну. Яго ўтрымлівалі і цанілі тыя добрыя законніцы, дый ён дарэмна зьдзіраўся, як тыя млынскія каменьні без засыпанага збожжа . . . — Так ён і зьнямогся і памёр на чужыне, не аплаканы сваімі прыяцелямі.

А ўсё вырываўся з Польшчы заграніцу! Казаў мне ў 1959: «Я скарэй выеду: мая справа на добрай дарозе: мне абяцаў той і той, тое і тое . . .» Так на тых пустых абяцанках Аношка толькі траціў час і здароўе, абіваючы парогі падступнае камуны.

Шкада добрага, сардэчнага сьвятара, цалкам адданага беларусам Суродзіча, а найбольш шкада сапраўднага ЧАЛАВЕКА!

«Са Сьвятымі упакой! ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!»

# Нэкралёгі

СЬВ. ПАМЯЦІ ВАЦЛАЎ АНОШКА, сьвятар беларус, памёр у Польшчы. Даведаліся мы з прысланай тэлеграмы, што пахаваны на магільніку ля Робэрціна (павет Пясэчна, ваяводзтва Варшаўскае) дня 22 лютага 1966 гз Іншых датаў і фактаў аб яго паходжаньні і студыях не маемо, як толькі тое, што нарадзіўся ў 1899 г. і пасьвячаны на сьвятара ў 1924 г. — Такжа аб яго працы ў пачатках сьвятарства мусімо прамаўчаць. Толькі ўжо нам ведама, што ў 1926 г. Аношка быў назначаны на параха грэка-каталіцкае парахвіі Альпень і адтуль пераведзены ў пар. Дэлятычы ў 1935, дзе прабываў аж да 1944. У эміграцыю трапіў з патокам іншых людзей, што паплылі на Захад, як наступалі бальшавікі. — У Польшчы прабываў капэлянам у кляштары «Родзіны Марыі» да сваей сьмерці.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

*

СЬВ. ПАМЯЦІ ФІЛІП КІСЕЛЬ, памёр у Англіі у Wolverhampton-Staffs. Сьмерць захапіла яго ў ночы з 13 на 14 лютага: споўнілася, што сказана ў Эвангельлі — «Ня ведаеце ні дня, ні гадзіны». Суседзі знайшлі няжывога. Яшчэ напярэдадні абяспечыў свой пахарон, гаворачы з суседам, але не пасьпеў распарадзіцца ні домам, ні іншай, хоць невялічкай маемасьцяй. Казаў: «Заўтра зробім запіс!» — А пакінуў у Беларусі жонку і дачку, якім усьцяж пасылаў запамогу. Працаваў вельмі сумленна. Хварэў цяжка і доўга, але не даваўся лячыць стала і недалечаны зноў вяртаўся да працы. — Куды дзеліся астаткі заробленых грошаў? Казна ўсё запячатала . . . Можа ўдасца праз адваката ўратаваць штосьці для сям'і, а можа і не? Так гіне заробленае дабро, калі недапаможны беларус-эмігрант усё адкладае «на заўтра».

Сьв. Пам. Філіп Кісель радзіўся ў вёсцы Вялікалотва (каля Ляхавіч, раён Баранавічы) дня 12 жніўня 1904.

Пахаваў яго правасл. Сьвятар Янка Абабурка з грамадкай суродзічаў дня 19 II 1966 г. на магільніку Jeff.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

**Дыякан Рабэрт Тамушанскі**

# Дзед і бабка гаварылі па нашаму

У юнацтве мы цікава слухалі і шмат чыталі аб чужых краёх і розных прыгодах. Магчыма, што жаданьне прыгодаў і лепшае долі прычынілася да падарожжа маіх дзядоў з роднага краю ў далёкую Амэрыку. А было гэта ў пачатку нашага стагодзьдзя.

Мой дзед, Ян Тамушанскі, радзіўся каля 1870 году недалёчка гораду Сувалкаў, а бабка Марцэля недалёка Вільні. І вось яны, маладая пара, выбраліся ў малаведамую тады, заморскую краіну. Што гэта была вялікая рызыка, можна судзіць з таго, што абое былі простыя, няпісьменныя людзі, якія ніколі ня бывалі ані ў якой школе, ані дальш вёскі і бліжэйшага мястэчка. Аднак нельга ім адмовіць ні адвагі, ні мудрасьці, бо — ня ведаючы чужых моваў — патрапілі ня толькі даехаць (праз Англію) ў Канаду і ўладзіць так-сяк сваё жыцьцё, але пасьля году перамяніць Канаду на Злучаныя Штаты — у 1903 г.

Відаць, што ў Канадзе ім ня вельмі ручыла, бо нам — унукам — дзяды аб гэтым ня любілі ўспамінаць. На сталае мейсца ў Амэрыцы выбралі сабе мясьціну ў 35-ці кілямэтрах ад вялікага гораду Нью Ёрку і там паволі здабыліся на ўласны дамок зь вялікім пляцам на гарод. І відаць з усяго, што ім хацелася, пакінуўшы незабыўную Бацькаўшчыну, адтварыць яе падабенства ў Амэрыцы. Дык вось і ўвесь расклад у хаце, абразы ў куце — ўсё было (як яны называлі) «па-нашаму». Панадворак, а там куры, каза і сабачка — напаміналі дзядом родны край. Адгароджаны добры кусок яны прызначылі на гарод, асабліва на варыва — дзеля выгоды і карысьці, а таксама і з прывычкі да працы на сваей зямельцы — зь любові да яе, як на Бацькаўшчыне.

Але яшчэ вернемся да хаткі: два пакойчыкі, сьцены пабеленыя вапнай і жалезная печка, дапасаваная для аграваньня і для кухоннае працы — ўсё гэта давала магчымасьць жыць «па-нашаму». А простыя мэблі дзед масьцярыў сам, каб было таней і прыгажэй, як ім здавалася. І наагул догляд хаты і прыбудовак для статку ляжаў на адказнасьці самога дзеда, а ў гародзе ахвотна працавалі абое.

Амэрыка — страна багатая, але і вельмі капрысная: заработкі простых людзей здараюцца добрыя і сярэднія і ніякія. Мой дзед, як некваліфікаваны работнік, падпадаў часамі і пад безрабоцьце, — дык вось дагледжаны гарод ім служыў добрай і пэўнай падтрымкай на такі «сухі пост». Праўда, тады старалася бабка трапіць на работу: яна пераважна працавала ў цукернях.

Нам ведама, Амэрыка — край поўнае свабоды і пашаны для чалавека і ягонай мовы. І якраз так дагодна злажылася, што ў суседзтве з маімі дзядамі жылі пераважна людзі з краёў славянскіх: карыстаючы з гэтага, дзед прывык гаварыць да іх вылучна па беларуску — яны разумелі яго, а ён іх. Толькі бабка ўмела размовіцца ў патрэбе паангельску, а сам дзед не хацеў дурыць сабе галавы і — апрача які 50-ці словаў — больш ангельшчыны і не навучыўся!

*

Дзяды вынесьлі з Радзімы традыцыю старога хрысьціянства і жывое веры, але хадзіць у касьцёл-царкву ім ня выпадала: найперш, што блізка сьвятыні ня было, а другое, што былі чужамоўныя. Я добра помню, як яны жаліліся, чаму няма набажэнства «па нашаму»? Тады я ня ведаў, якой яны былі веры і не разумеў абрадаў: толькі пасьля мне бацька выясьніў, што нашыя дзяды былі уніятамі. Дзеля таго, што унія на Сувальшчыне была скасаваная ў 1875 годзе, то дзед быў хрышчаны ў уніяцкай царкве. А бабка ахрышчана ўжо праваслаўнай, бо на Віленшчыне цар Нікалай І-шы скасаваў унію ў 1839 г. Але мае дзяды не лічылі сябе ані «польскімі», ані «рускімі», як гэта гаварылася ў нас аб каталіцкай і праваслаўнай царкве.

Маліліся дзяды па славянску, абразы былі ў хаце ўсходнія. Дзед рабіў тройчы знак крыжа, трымаў у руках ражанец і голасна гаманіў «Ойча наш» і «Багародзіца». Бабка ражанца ня мела: яна стаяла пад абразамі і ціханька шаптала свае малітвы. Яны абое дзівіліся і бедавалі, што ня было сьвятара, які-б гутарыў-бы па-нашаму.

Аднойчы на сьвята «Ярдані» прыйшоў да іх лацінскі ксёндз, каб пасьвяціць дом і пачынаў гаварыць да іх па польску. Аднак бабка жыва пратэставала, кажучы: «Мы — не палякі, дык ня хочам польскай веры!» А дзед спакойна сказаў: «Ах, каб мы толькі маглі слухаць Божае слова ў царкве па-нашаму!..»

На шчасьце для іх у пазьнейшых гадох прыяжджаў сьвятар (здаецца, ўніяцкі) з Закарпацкае Русі, у якога яны і спавядаліся. Зьбіралася група пабожных суседаў у большай хаце: там той сьвятар адпраўляў набажэнства, а пасьля гасьціў, служыў добрай радай і радасьцяй для сваіх суродзічаў і для нашых беларусаў.

**Я. Савіцкі**

# Святары—Работнікі

Францускія біскупы — згодна з Ватыканам — аб'явілі, што зьнята заборона сьвятаром ісьці на работу ў фабрыкі і на будаўніцтва.

Гэтая дзіўная спроба працы сьвятароў — разам з работнікамі і на звычайных варунках — распачалася пасьля II-ой вайны. Мэта была паважная — пры аказіі працы фізычнай — весьці між работнікамі працу духоўную — місыйную.

Работніцкая кляса у Францыі была духова вельмі запушчаная: каталіцкае духавенства не патрапіла зарганізаваць абароны пралетарыяту. Затое скарысталі з гэтага камуністы, якія змаганьне з капіталізмам і з фабрыкантамі зьвязалі з атэізмам: такім спосабам работніцкая кляса падпала пад іх уплыў і адыйшла ад Царквы і ад веры у Бога. Царква ўзялася ратаваць рэлігію і ўжо даканала шмат у гэтай галіне: паўсталі хрысьціянскія арганізацыі рабочых і сындыкаты, якія бароняць рабочых ня толькі ад няволі капіталізму, але і ад няволі камунізму.

І вось частка маладых энэргічных сьвятароў, у Францыі паднялася ісьці на працу разам з сьвецкімі работнікамі, каб пры гэтым весьці між імі апостальства і вярнуць іх да Бога. Аднак, як усюды здараецца, людзі ёсьць людзі і падлягаюць розным пакусам і слабасьцям: так і гэтыя работнікі-сьвятары, ходзячы самапасам — без належнай апекі і асьцярожнасьці — пачалі і самі спакушацца сьвецкім жыцьцём, дык Царква мусіла забараніць сьвятаром такую працу. Праўда, толькі малая частка гэтых сьвятароў адмовілася ад паслушэнства і адыйшла ад Царквы. Рэшта ўсе працу пакінулі; некоторыя дасталі часовае пазваленьне працаваць часткова (4 гадзіны ўдзень).

Такі стан трываў дасюль. Цяпер варункі жыцьця значна зьмяніліся: ўплыў атэізму ў Францыі аслабеў, узмацнілася дзейнасьць каталіцкіх сындыкатаў і духавенства жывей узялося за духоўную працу між работнікамі, а сьвецкія каталікі жыва дзейнічаюць у арганізацыях. Папа Павал VI згадзіўся з францускімі біскупамі зьняць забарону 1959 году і аднавіць сьвятароў-работнікаў. Варункі новай спробы такія:

1) Заснованы спэцыяльны Камітэт біскупаў, які мае апеку над работнікамі-сьвятарамі. Камітэт працуе ў лучнасьці з адпаведнымі біскупамі.

2) Біскупы пускаюць на работу толькі прыгатаваных і адпаведных кандыдатаў.

3) Гэтая спроба мае трываць тымчасам тры гады: далей пакажуць рэзультаты, што трэба будзе рабіць.

4) Рабочыя-сьвятары маюць жыць групамі супольна і самі будуць мець духовую апеку.

5) Сьвятары будуць запісывацца ў свае катал. сындыкаты, але ня будуць займаць кіравецкіх становішчаў і будуць працаваць поўны працоўны дзень.

☆

Падобныя групы сьвятароў-рабочых існуюць і ў другіх краёх Эўропы і Амэрыкі. Найлепш справа пастаўлена ў Гішпаніі, дзе сьвятары працуюць у каталіцкіх групах разам із сьвецкімі («Опус Дэі»). У Бэльгіі сьвятары працуюць у фабрыках бяз забароны і перапынку, таксама ў Аргентыне, Бразыліі і Чылі.

---

Мы — дзеці — я і мой брацік — вельмі любілі дзеда і бабку. У іх бывала заўсёды вясёлая музыка і прыгожыя расказы аб далёкім родным краю. Дзед меў гармонік, ахвотна іграў на ім дый любіў беларускія народныя песьні. Ён нам расказываў аб даўнейшым жыцьці ў беларускіх вёсках. Нам надта падабаліся розныя гісторыі і прыгоды, асабліва аб цыганах. Мяне дужа зацікавіла гутарка аб «цудоўным» медзьвядзю, што ўмеў танцаваць, кланяцца дый паказываць сьмешныя штучкі. А бабка мела ў памяці і ўмела расказываць аб дзіўных зьявішчах прыроды ў лясох, на палёх і балотах нашага краю. Прытым і тое было для нас важна, што бабка, калі працавала ў цукернях, мела заўсёды ў запасе найлепшыя цукеркі!

Да нас прылучаліся ў гульнях і суседнія дзеці і ахвотна ўваходзілі ў дзедавую хату — на музыку і на цукеркі. Паміж імі было і пару маленькіх нэграў, якіх мы ніколі ня лічылі нічым ад сябе горшым. Толькі адзін раз — помню, як мне было 5 год, я запытаўся таго: «Чаму ты чорны?» А ён мне адказаў: «Ну, бо я — чорны, а ты — белы!» І гэтае тлумачэньне мяне зусім здаволіла.

Я ніколі не забуду сваіх мілых дзядоў: я ў іх правёў сваё першае дзясяцігодзьдзе, (можна сказаць — самае шчасьлівае) і навучыўся гаварыць па беларуску. Нашая мама была ня вельмі здаровая: часта занепадала і трапляла ў больніцы, значыць, я знайшоў добрую апеку ў сваіх дзядоў. І я ім вельмі ўдзячны, што навучылі мяне шанаваць і любіць наш беларускі народ і край, а таксама нашую мову, дый цаніць нашых простых людзей. Хоць ня былі яны вучонымі і багатымі, але — на дзіва адзначаліся немалой прыроднай мудрасьцяй і шчырасьцяй, бяз хітрасьці.

# Беларуская Гравюра ў Дрэве

## Ф. Скарына



ВЗОРЪ ХРАМУ ГДНЯ ѾСАЛОМОНА ДЕЛАНОГО

*С ъ в я т ы н я   С а л я м о н а*

*Слава съвятыні Салямона здавалася паланіць Скарыну, бо большасьць гравюраў у Кнігах Царстваў прадстаўляюць або яе будову, або абсталяваньне. На прыведзенай вышэй гравюры, якая прадстаўляе вонкавы выгляд съвятыні, Скарына трымаецца дакладна біблійнага опісу і захоўвае ўсе патрэбныя прапорцыі: «Дом, які збудаваў Салямон Госпаду, быў шэсьцьдзесят локцяў даўжыні, шырыні дваццаць і вышыні трыццаць локцяў» (3 Царств. 6, 2). Сьпераду відаць прытвор. Будынак мае вокны «рашоткавыя, глухія з адкосамі» (там-жа 6, 3). «Кругом съвятыні і съвятога-съвятых былі прыбудоўкі» (там-жа, 6, 5). Усяго прыбудовак было тры.*

*Увесь будынак мае тыпова італьянскі выгляд. Вокны зъяўляюцца прыкладам чыстага вэнэцыянскага рэнэсансавага стылю.*

ЦАРЬСТВЪ :~ РЛЕ :~

ОБРАЗЪ ДВУ ХЕРУВИМОВЪ ВЫОЛИТОВНИЦИ



*А р к а   З а п а в е т у*

*Салямон «зрабіў у съвятым-съвятых двух херувімаў з аліўкавага дрэва, вышынёю дзесяць локцяў . . . І аблажыў ён херувімаў золатам» (3 Царств., 6 23 і 28). Арка Запавету, якая была ўрачыста прынесена ў Ерузалім Давідам (гл. гравюру ў Б. Ш. № 9, 1965), была пастаўлена паміж херувімамі, якія распасьціралі свае крыльлі над ею і над каламі, на якіх нясьлі арку (гл. 2 Парал., 5. 8).*

*Магчыма ў ніякай іншай гравюры ня відаць так ясна ўплыў гатыцкага стылю на беларускае сярэднявяковае мастацтва. Гэта ня быў асобны выпадак і мы маем шмат падобных прыкладаў у іншых галінах, як напр. у будаўніцтве (Маламажайск, Сынкавічы), малярстве (Андрэйка), літаратуры (Страсьці Хрыстовыя, Повесьць аб трох каралях). Гэтаму адзінаму ў сваім родзе зьліцьцю ўсходніх і заходніх элемэнтаў беларускае мастацтва заўдзячае шмат сваей своеасаблівасьці.*

# Весткі з царкоўнага жыцьця

ВАТЫКАН: «Справа Ватыканскага ІІ-га Сабору не закончана. Яна аказваецца перад нашымі вачамі як багатае жніво. Але прыйшла пара маладзьбы і падзелу зерна між людзьмі». Так гаварыў Папа Павал VI да кардыналаў 1-га лютага 1966. — Дык вось устаноўлены пяць «пасьлясаборных» камісіяў — для справаў 1) Біскупаў, 2) законьнікаў, 3) місіяў, 4) хрысьціянскага навучаньня і 5) апосталяту людзей сьвецкіх. — Апрача гэтых устаноўлена Камісія ЦЭНТРАЛЬНАЯ, якая будзе клапаціцца аб справах агульнае працы ў Ватыкане і ўва ўсіх успомненых камісіях. У Цэнтральную увайшлі найбольш вучоныя і дзейныя кардыналы: Чыконіані, Тыссэрант. Агаджыаніан, Леркаро, Урбан, Конфалёніеры, Доэпфнэр, Суэнэнс, Робэрты.

Для нас важна, што наш Уладыка Чэслаў Сіповіч закліканы ў Камісію Законьнікаў.

Камісіі маюць абавязак дапільнаваць, каб дэкрэты і загады Сабору сапраўды ўваходзілі ў жыцьцё Царквы, бо *рэформы* мусяць быць практычнымі, а ня толькі папяровымі.

*

ВАТЫКАН: Зьвярнулася да Папы група з праектам устанавіць сталы Сакратарыят для змаганьня зь *бядой* і *голадам* на сьвеце.

Трэба мець сталую праграму працы-змаганьня зь беднасьцяй: а) Помач сацыяльная і тэхнічная, в) лучыць іншыя хрысьціянскія групы, якія ўжо над гэтым працуюць, с) будзіць сумленьне народаў, якія ядуць дасыта, або і да збытку.

Гэты Сакратарыят павінен аснавацца ў *Рыме* і павінен падлягаць кантролі самога Папы. Павінен абыймаць увесь сьвет і працаваць *экумэнічна* — для ўсяго сьвету, ня робячы розьніцы між нацыямі і рэлігіямі, бо «галодны чалавек ёсьць нашым бліжнім».

У дзейнасьці трэба лучыцца з іншымі арганізацыямі сьвецкімі і царкоўнымі. *Тэрмін* дзейнасьці неагранічаны, пакуль голад існуе на сьвеце. Фактычна такая праца ўжо вядзецца ў Ватыкане, хоць ня была афіцыяльна ўстаноўлена.

*

Як мы ўжо пісалі, на 2-ой Сэсіі Сабору была прынятая пастанова аб сталых *дыяканах* у лацінскім абрадзе, (Гл. № 82 «Б. Шл.» 1964 г.).

Цяпер гэтая справа ажывае і Царква мае ўводзіць яе у практыку.

Ад часоў апостальскіх дыяканы былі ўсюды неабходнымі. Галоўныя дыяканы пры біскупах называліся *архідыяканамі:* яны бывалі галоўнымі памачнікамі біскупаў. А ў Папы бывалі сакратарамі і адміністратарамі гаспадаркі. Біскупы і Папы пасылалі архідыяканаў у розных пасольствах, на сыноды і на суды.

Аднак на Захадзе ад VIII стагодзьдзя дыяканы паволі сталі занікаць: толькі само сьвячаньне лічылася неабходным, але звычайна было пераходнай ступеняй да сьвятарства. Найчасьцей пасьля году іх сьвяцілі на сьвятароў.

На гэтым Саборы біскупы з місіяў і з Паўдзённае Амэрыкі прасілі Сабор даць ім сталых дыяканаў. Сабор згадзіўся на гэта і нават згадзіўся пазволіць, каб сьвяціць на дыяканаў людзей жанатых.

Бо і сапраўды — пры браку духавенства — дыяканы будуць мець даволі працы і духоўных абавязкаў: будуць магчы хрысьціць, гаварыць навукі, даваць Сьв. Прычасьце, адведваць хворых, памагаць у школьнай і адміністрацыйнай працы, а такжа ў арганізацыях, асабліва ў абавязках міласэрдзя.

І кожнае набажэнства — дзеля сваей красы і паўнаты — вымагае ўдзелу дыякана, — толькі-ж лацінская Царква ад гэтага ўжо адвыкла.

Таксама магчыма, што некаторыя людзі маюць ад Бога прызваньне на ступень дыякана і не асьпіруюць да сьвятарства, як гэта было і з сьвятым Францішкам Сэрафіцкім, які быў дыяканам усё жыцьцё.

І вось у Нямеччыне ўжо запісалася на дыяканаў 40 кандыдатаў і ў Францыі 30. — І ў практыцы ўсе каталікі прызнаюць, што дыяканства вельмі паслужыць да аздобы Божае службы.

*

НЯМЕЧЧЫНА (ўсходняя): Камуністычны ўрад пазволіў жанчынам (паводле іхняе неабходнасьці і волі) на штучнае-лекарскае выкананьне *аборту*, значыць, на забойства ненароджанага дзіцяці.

Каталіцкія біскупы аб'явілі пратэст: апублікавалі пастырскі ліст, які загадалі духавенству прачытаць ува ўсіх касьцёлах. Такое лекарскае забойства назвалі «абрыдлівым злачынствам», нязгодным ані з правам прыроды, ані з хрысьціянскай этыкай, ані з этыкай *лекара*. Бо задача лекара — гэта ахова і абарона людзкога здароўя і жыцьця, — дык ніякі лекар ня мае права шкодзіць здароўю чалавека, ані прысьпяшаць яго сьмерці.

І жанчына, калі становіцца цяжарнай, карыстаецца аховай права, судоў і грамадзтва: прычыненае ёй забойства, калецтва, а нават крыўда лічыцца падвойным злачынствам — дзеля яе ненароджанага дзіцяці. Дык лекар, які прычыняецца да аборту, каб зьнішчыць пачатае жыцьцё, становіцца сам бандытам найгоршага гатунку — «абрыдлым».

Таксама бацькі дзіцяці, асабліва *матка* мае сьвяты абавязак аховы свайго дзіцяці. Гэта ёсьць, апрача закону Божага, такжа абавязак натуры. Нават у прыродзе зьвярынай і птушынай бачым, як бацькі, асабліва маці бароніць сваё патомства, кладучы сваё жыцьцё ў ахвяры.

ІТАЛІЯ: За прыкладам Францыі, дзе зноў Царква дала згоду на працу ў фабрыках сьвятароў, у горадзе Міляне група маладых сьвятароў зьвярнулася да кардынала Колёмбо, просячы згоды — яны гатовы пайсьці на працу ў фабрыкі, на будаўніцтва і інш.

Кардынал аднак адмовіў ім — дзеля таго — кажа, што ў Італіі няма такой духоўнай науды. Італьянскія работнікі, асабліва на поўначы краю, не парываюць так з Касьцёлам, як у Францыі і духавенства мае дастаткова спасабаў апекі і апостальства між працоўным народам.

*

ГАЛЯНДЫЯ: Біскуп Бэккерс аб'явіў у сваей дыэцезіі такую прапанову: падчас гэтае зімы — паводле лякальных патрэбаў — зьбіраць «пастаральныя гутаркі», як-бы мітынгі, на якіх будуць выступаць толькі вернікі, а духавенства будзе толькі слухаць. Біскуп кажа: «Цяпер мы будзем Касьцёлам *слухаючым*, а вернікі будуць *навучаючым*».

Такія «Малыя *Саборы*» дадуць нам дастаткова матар'ялу, а духавенства — на сваіх зборках будзе разважаць патрэбы вернікаў і рабіць высновы і пастановы для далейшай духоўнай працы.

Так паставіў пастырскую працу і вядзець сваю дыэцэзію біскуп Бэккерс на новы шлях — арыгінальны, аднак — здаецца — вельмі практычны.

*

ПАКІСТАН: Адносіны між хрысьціянамі былі тут дасюль даволі халодныя. А вось цяпер усе хрысьціяне аб'ядналіся ў справе міру, каб Бог памог пагасіць вайну з Індыяй. Уфармаваўся Камітэт Міру, якога прэзэсам ёсьць выбраны каталіцкі сьвятар. Ён зарганізаваў у гор. Лягора агульнае набажэнства за мір. Сабраліся ўсе хрысьціяне, а прыйшлі і магамэтане з сваім духавенствам. Адзін з мулаў адмовіў публічна малітву за супакой і згоду.

*

ЦЭЙЛЁН: Два сьвятары цэйлёнцы выехалі на місію ў Малаі. Да іх прылучыліся два французы манахі: так з краю місыйнага, Цэйлёну, выправілася місія ў Малаі, каб памагчы там духавенству ў місыйнай працы, бо там варункі значна цяжэйшыя і большая патрэба духавенства.

*

ЧЭХІЯ: Кард. Язэп Бэран, якога камуністы ня пускаюць у Чэхію, сказаў аб дыялёгу з камуністамі: каб зь імі гаварыць, трэба мець пэўнасьць у іхняй шчырасьці, але тымчасам у іх гэтага няма! Трэба ,каб камуністы адважыліся сказаць: «Мы вінаватыя!» — («Mea culpa»!»). Аднак гэтага ад іх ніхто не дачакаецца.

Няхай перастануць уціскаць рэлігію, няхай звольняць духоўных зь вязьніцаў, няхай пазволяць біскупам і сьвятаром заняць свае месцы; няхай пазволяць Царкве ўпраўляць сабой свабодна, няхай дапусьцяць законам (манастыром) вярнуцца і няхай дадуць волю сем'ям хрысьціянскім ! . .

Самі камуністы маюць поўную свабоду весьці сваю прапаганду. Аднак-жа католікам не даецца права і магчымасьці адказываць на закіды і бараніцца. — Дык вось, калі свабода ёсьць гарантаваная, значыць, яна мусіць быць дадзена і каталікам. — Так, напрыклад, часапіс у Чэхіі «Католіцке Новіны» павінен мець права адказываць на закіды камуністаў супраць рэлігіі і Царквы.

(Увага: ці-ж кардынал Бэран ня ведае, што камуністычная свабода рэлігіі — гэта ёсьць прымус і тэрор?)

*

ЧЭХІЯ: Мала таго, атэісты заснавалі новую камісію пры міністэрстве асьветы для змаганьня з рэлігіяй — на падставе «навукі». У камісію ўваходзяць псыхалёгі, сьвятары — адступнікі ад Царквы, прафэсары філязофіі. Чэскі ўрад спадзяецца — з такімі дарадчыкамі яшчэ узмацніць змаганьне з рэлігіяй.

*

ГОНГ-КОНГ: Праз Гонг-Конг прыходзяць весткі з Кітаю. Гэты горад яшчэ трывае як ангельская калёнія. З Кітаю сюды ўсьцяж плывуць людзі — легальна і нялегальна, бо тут багацтва пануе бязьмернае і гандаль вядзецца вялізарны.

Аб каталіцкай Царкве ў Кітаі расказываюць, што ўрад ня змог зарганізаваць «нацыянальнай каталіцкай схізмы», наагул біскупы-кітайцы і сьвятары трымаюцца верна, але пераносяць шмат зьдзеку. Каталікі, якія трапляюць у Гонг-Конг, стараюцца трапіць на набажэнства і да споведзі. Жаляцца, што па 5-6 гадоў ня былі ў касьцеле. Дзяцей баяцца хрысьціць, бо — кажуць — усёроўна выхаваць іх пахрысьціянску немагчыма. — Хоць прасьлед рэлігіі аслабеў, але уціск трывае.

*

АНГЛІЯ — ЛЁНДАН: У квартале Вэстмінстэр, цэнтры палітычным і рэлігійным, сарганізавалася Хрысьціянская Рада 4-ох Цэркваў — католікаў, англіканцаў, мэтадыстаў і шкоцкіх прэзьбітэрыянаў — для лучнасьці і дыялёгу. Супольнай базай ёсьць вера ў Ісуса Хрыста, Бога і Збавіцеля, паводле Сьвятога Пісаньня, а також супольнае жаданьне хваліць адзінага Бога — і Сына і Сьвятога Духа. Рада прыйме ўдзел у гадавым зборышчы на Трафальгар Сквэр у студні. калі арганізуецца супольны тыдзень малітвы за Адзінства веры.

*

КАНСТАНТЫНОПАЛЬ-РЫМ: Ужо ад даўжэйшага часу ішлі размовы між Папам і Патрыярхам, каб афіцыяльна зьняць *анатэмы*, якія кінены ўзаемна (1054 г.). Толькі вельмі моцна выступаў супраць грэцкі Мітрапаліт Хрызастом. Аднак Патрыярх Атэнагорас трымаўся той умовы,

якая запала на праваслаўным зьезьдзе на Родос, што кажная Праваслаўная Царква можа сама — на сваю адказнасьць — весьці дыялёг з Царквою Каталіцкай. У Патрыярха было пракананьне, што першы крок дыялёгу — гэта зьняць узаемныя анатэмы. Наступны крок — гэта візыта Патрыярха ў Ватыкане.

*

ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ: Брытанская Рада *Цэркваў* выразіла сваю радасьць, што лучнасьць хрысьціян паглыбляецца: Царквы Англіканская, Пратэстанская і Праваслаўная паступова збліжаюцца між сабою. Апрача таго, як закончыўся Ватыканскі Сабор, наступае збліжэньне з Каталіцкаю Царквою. Да гэтага асабліва прычыніўся экумэнічны дэкрэт Сабору. Цяпер Брытанская Рада Цэркваў студыюе дэкрэты Сабору і прыймае справаздачу сваіх абсэрватараў, што бралі ўдзел на Саборы. Рада сьлядзіць зь вялікай увагаю аднаўленьне Каталіцкай Царквы.

Англіканская Царква прызнае, што апека ангельскага ўраду занадта ёй цяжыць і жадае рэвізіі і аслабленьня гэтае апекі.

*

САВ. БЕЛАРУСЬ: Маскоўскі Патрыярх Аляксей 8 X 1965 г. узьвёў япіскапа Мінскага і Беларускага ў сан *архіяпіскапа.* Яго імя *Антоній.*

(Рэд.: Характэрна, што япіскап Кіеўскі і Галіцкі *Іоасаф* мае тытул Мітрапаліта і *Экзарха Ўкраіны;* а Беларускі і Менскі такіх тытулаў дасюль не дастае! Мусіць дзеля таго, што Беларусь лічыцца *«наймалодшым братам»?).*

*

АЎСТРЫЯ-ВЕНА: 22-26 IX 1965 адбыўся тут Кангрэс Стара-каталіцкае Царквы, на якім былі дэлегаты ад пратэстантаў, англіканаў, праваслаўных і ад каталікоў. Стара-каталікі аддзяліліся ад Каталіцкае Царквы ў часе I-га Ватыканскага Сабору 1870 г. Яны ня прызналі папскае непамыльнасьці ў справах веры і стварылі схізму. Праўда, лік іх невялікі, галоўна ў Галяндыі і Швайцарыі. Цяпер стаяць на раздарожжы між пратэстантамі, праваслаўнымі, каталікамі: ім пагражае разьбіцьцё на некалька частак, як гэта сталася з пратэстантамі.

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Гэтым падаецца да ведама, што Беларуская Школа для Хлапцоў імя Сьвятога Кірыла Тураўскага ў Лёндане пачала прыём кандыдатаў на 1966—67 навучальны год.

У школу могуць быць прынятыя хлопцы беларускага паходжаньня ў веку ад 8 да 12 гадоў.

Лік вольных месцаў у школе вельмі агранічаны. Дзеля гэтага зацікаўленыя бацькі ў сваім собскім інтарэсе павінны зьвярнуцца да кіраўніка школы ў як найхутчэйшым часе. Каб унікнуць непатрэбных затрымак і непаразумленьняў, бацькі павінны адразу падаць імя і дакладную *дату нараджаньня сына,* а таксама прыслаць арыгінал або копію апошняга *школьнага пасьведчаньня.* Апошні тэрмін складаньня заяваў мінае 31-га траўня 1966 г. для кандыдатаў з Эўропы і 30-га красавіка для кандыдатаў з заморскіх краінаў.

У ўсіх справах зьвязаных з школаю пісаць на адрас:

The Rev. Headmaster,
St. Cyril's House
41 Holden Road,
London, N. 12.

## ПАПРАЎКА ПАМЫЛАК

У № 1 (94) «Божым Шляхам» у загалоўку першага артыкулу (бач. 1) у слове «шляху» прапушчана літара «л», а на бач. 9 у арт. «Падарожжы па Беларусі Хрысьціяна Шлегеля» таксама у загалоўку прапушчаны памылкова тройчы «л». Гэтыя памылкі сталіся вылучна з недагляду работнікаў друкарні і за гэтую прыкрасьць перапрашаем Уладыку Чэслава Сіповіча і Рэдакцыю часапісу.

*Кіравецтва друкарні*

# З беларускага жыцьця

## ПАДАРОЖЖА ЎЛАДЫКІ ЧАСЛАВА

У аўторак 22-га лютага дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч выляцеў самалётам з Рыму ў Паўдзённую Амэрыку. Мэтаю падарожжа ёсьць наведаньне манастыроў а. Марыянаў у Бразыліі і ад 5 сакавіка ў Аргентыне (Ўладыка Часлаў зьяўляецца Генеральным Ігуменам а. Марыянаў) і адведаньне беларускіх калёніяў у гэтых краінах.

Лёндан

## ВАСЬМІДЗЁННЫЯ МАЛІТВЫ ЗА ЕДНАСЬЦЬ ЦЭРКАЎ

У аўторак 18-га студзеня, першы дзень васьмідзённых малітваў за царкоўную еднасьць, дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч у саслужэньні з а. Архімандрытам Л. Гарошкам і а. А. Надсонам, адслужыў сьв. Літургію у «Бромптон Ораторы».

Сьпяваў мужчынскі хор гэтай царквы. Гэты хор, які складаецца з прафэсіянальных сьпевакоў і выступае часта ў ангельскім радыю, вывучыў дасканала беларускія бізантыйскія напевы дзякуючы стараньням сп. Г. Піхуры.

«Бромптон Ораторы» зьяўляецца, пасьля сабору, найбольшай лёнданскай каталіцкай царквой. Яна належыць да закону айцоў Аратарыянцаў (сьв. Філіпа Нэры), які ў мінулым стагодзьдзі меў такіх выдатных адзінак, як кард. Н'юман і а. Фабар.

На літургіі была прысутная вялікая колькасьць верных, большасьць якіх прыступіла да сьв. Прычасьця.

*

У нядзелю 22-га студзеня а. А. Надсон адслужыў сьв. Літургію ў прыхадзкой царкве сьв. Альбана ў Фінчлей. На тэрыторыі гэтага прыходу знайходзіцца Марыян Гаўз і Школа сьв. Кірыла. Царква была перапоўнена, так што ня было месца для ўсіх, якія жадалі прысутнічаць. Сьпяваў хор школы сьв Кірыла пад кіраўніцтвам сп. Г. Піхуры. У казаньні а. Надсон сказаў, што царкоўная еднасьць зьяўляецца вынікам еднасьці самога Бога, у Троіцы адзінага. Поўную еднасьць мы асягнем у небе, але ўжо цяпер тут на зямлі яна павінна існаваць сярод усіх тых, якія цераз сьв. Хрост маюць у сабе зерне надпрыроднага жыцьця. Еднасьць царкоўная — гэта азнака любові, якая існуе паміж дзецьмі Божымі. Далей прапаведнік спыніўся на адносінах між праваслаўнымі і каталікамі ў сьвятле пастановаў II-га Ватыканскага Сабору.

На заканчэньне сьв. Літургіі хор засьпяваў «Магутны Божа».

## ДАКЛАД АБ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У панядзелак 8-га сакавіка сп-шня Вера Рыч прачытала ў Ірляндзкім клюбе даклад аб беларускай літаратуры і зрабіла яе параўнаньне з ірляндзкай. Даклад выклікаў вялікае зацікаўленьне сярод прысутных.




*Прыгажуні — самыя белыя — ў Аўстраліі*



*«Красуні» — самыя чорныя — ў Аўстраліі*

## ЗАЛАТЫЯ ДУМКІ

Фальшывы ёсьць погляд, што дзеці ня любяць дысцыпліны, бо сапраўды яны ненавідзяць толькі дысцыпліну суровую, несправядлівую і няўступлівую.

*Балыярд*

Дзецям трэба абавязкава даваць культуру, а культура — гэта сустрэча дзіцячага розуму з традыцыяй свайго краю.

Калі зачэпіш на кручок вуды корм, які сам любіш, тады мусіць няшмат зловіш рыбы. Дык выбірай корм, які любіць рыба.

*Бадэн Повэль*

Дасканаласьць зьяўляецца ня ў тым, каб рабіць штосьці вялікае, але каб выконваць акуратна штодзённыя і супольныя справы.

*Сьв. Бэрнард*

Што паможа не напівацца віна, калі ўпівацца гневам?

*Сьв. Геранім*

## *З беларускае прэсы*

ГОЛАС ЦАРКВЫ: Рэліг.-Грамадзкі Час. Правасл. Беларусаў, № 22, Каляды, 1965. Каляднае Пасланьне і ўвесь № у духу Віфлеемскае Зоркі. — Толькі-ж гэты «Голас Царквы» гучыць вельмі рэдка. Ці-ж Правасл., Грамадзтва ў Амэрыцы не магло-б памагчы, каб «Голас» азываўся кожны месяц?

СЯЎБІТ: Вяліка-Літоўскі (Беларускі) двумесячнік, Студзень-люты № 48, 1966. — Час. Каталіцка-Грамадзкі. Нумар пераважна пасьвячаны «Вынікам працы II-га Ватыканскага Сабору».

БЕЛАРУС: Час. Белар. Паўночнае Амэрыкі. Год XVI, №104-105, Лістапад-Сьнежань, 1965, Нью Ёрк. У нумары такжа «КАНАДЫЙСКІЯ НАВІНЫ».

ВЕХІ: № 17, Люты, 1966. Год выд. XI.

БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА: № 8, 1965, Нью Ёрк-Саут Рывэр.

СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ: Бел.-Эвангельскі Час., Год выд 33, 1966, № 1 (82).

Вельмі характэрныя думкі з рукапісу 1692: «Ідзі бястурботна сярод гоману і мітусьні жыцьця... Выказвай сваю праўду спакойна і ясна. Слухай іншых, нават тупагаловых... сьвет усё-ж астаецца прыгожым. Будзь асьцярожным. Імкніся быць шчасьлівым». — Зь іншых думак надта пасуе да нашых старых рэдактараў пагаворка грэцкая: «Сівыя валасы зьяўляюцца азнакаю веку, а ня мудрасьці».

ЗЬНІЧ: Белар. Рэлігійна-Адраджэнская Часопісь. Год XVI, Лістапад-Сьнежань, 1965, № 85-86, Рым.

БЕЛ. ІНСТ. НАВУКІ І МАСТАЦТВА: *Сымон Брага. Лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны.* Нью Ёрк, 1965, Мюнхэн. Скарынаведная праца ня спыняецца: усё новыя і ўсё больш цікавыя росшукі даюць лепшае пазнаньне жыцьця і дзейнасьці «вандроўнага гуманісты» Беларусі.

Паважная праца — ужо ня першая — Сымона Брагі паглыбляе нашую веду аб Скарыне і пабуджае іншых, асабліва маладзейшых гісторыкаў, да далейшых аб ім студыяў.

THE JOURNAL OF BYELORUSSIAN STUDIES, Vol. 1, No. 1. London 1965.

Нядаўна вышаў з друку ў ангельскай мове першы нумар Журналу беларускіх студыяў. Выдаўцом зьяўляецца Ангельска-Беларускае Таварыства.

Журнал зьвяртае на сябе ўвагу багатым і разнаякім зьместам. Вось артыкулы, якія там знайходзяцца: Творы сьв. Кірыла Тураўскага (А. Надсон); Узяцьце Полацка (перадрук старога ангельскага інфармацыйнага лістка з 1579 г.; Беларускія Рэнэсансавыя вершы (Р. Патры-Тамушанскі); Кастусь Каліноўскі (Л. Гарошка); Максім Багдановіч у беларускай літаратуры (Вера Рыч); Пелеская і Падляская чорная цэраміка (Г. Піхура); Уільям Шэкспір (кароткі агляд беларускіх тлумачэньняў ягоных твораў).

Такім чынам матар'ял падабраны з тым разьлікам, каб даць чытачу паняцьце аб беларускай культуры ад найстарэйшых часоў аж да нашых дзён. Вялікая колькасьць ангельскіх тлумачэньняў беларускіх арыгінальных твораў знайходзіцца ў артыкулах аб сьв. Кірыле, аб беларускіх рэнэсансавых вершах і Максіме Багданавічу. Шмат гэтых тлумачэньняў зроблены па мастацку сп-шняй Верай Рыч.

Вельмі добра апрацавана бібліяграфічная сэкцыя, дзе даецца зьмястоўны агляд беларускіх выданьняў, як на Беларусі так і эміграцыйных.

Была вельмі шчасьлівай думка памясьціць здымку фрэскі з Супрасьлскага манастыра, пакавзваючы такім чынам, што беларускія мастацкія багацьці не агранічваюцца да гравюраў Скарыны.

Тэхнічна і вонкава журнал прэзэнтуецца вельмі добра. Шкода, што ў тэкст укралася нямала памылак ў пісоўні. Трэба спадзявацца, што ў наступных нумарах гэтая загана будзе выпраўлена.

Журнал Беларускіх Студыяў запаўняе вялікую патрэбу паважнага выданьня ў ангельскай мове, якое-б магло аўтарытэтна інфармаваць заходні сьвет аб Беларусі і яе культуры. За гэта трэба шчыра падзякаваць выдаўцом і пажадаць далейшых посьпехаў.

На заканчэньне варта прывесьці выняткі з уступу да Журналу, напісанага праф. Робартам Оты з Оксфардзкага Унівэрсытэту:

«У веку ўсё большай аднастайнасьці, асабліва ў галіне матарыяльнай цывілізацыі, паадзіночныя нацыянальныя культуры маюць перад сабою вялікую ролю, як паказьнікі безканечнай разнаякасьці людзкога духу, і таму Журнал Беларускіх Студыяў павінен быць міла бачаным, як крыніца вестак для неспэцыяліста аб мала ведамым усходня-эўрапэйскім народзе і ягоным укладзе ў цывілізацыю... Бачынкі гэтага нумару Журналу зьяўляюцца сьведкамі разнаякасьці і жывучасьці беларускіх культурных дасягненьняў. Яго будуць чытаць з цікавасьцю ўсе хто цікавіцца больш чым павярхоўна Усходняй Эўропаю».

### СУСЕДЗКІЯ РАДЫ

Хочаш памагчы — не рабі шкоды!
Хочаш пацешыць — не даводзь да злосьці!
Хочаш лепшага — не давядзі да горшага! —
Адным словам — ня лезь у вочы!

*а. Я. Гэрмановіч*

# Жыцьцё і сьмерць атэіста

Перада мною зь некалькіх гадоў лісты беларуса — чалавека старога, патрыёта, інтэлігента, ды вельмі няшчаснага-хворага, пакрыўджанага інваліда, які аднак бадзёрыцца — не паддаецца ні хваробам, ні зьдзеку. Жыве ён зімою ў Маскве, летам на Беларусі. Да поўнае характарыстыкі трэба сказаць — паводле ягоных слоў — ён атэіст, няверучы «ні ў Бога, ні ў чарта!» Слова аднак «Бог» піша вялікай літарай, а чарта малой. І кажа, што на Пасху пайшоў у царкву; і кажа, што там не маліўся, а так паглядзеў і шмат што яму паказалася сьмешным. Але пасьля пайшоў да папа, каб заказаць за бацькоў Літургію, дый не дагаварыліся аб плату, дык сам адзін быў на магільніку і «пакланіўся сваім памёршым, пагаманіў зь імі, пастагнаў і паплакаў».

Паслухайце, як ён сардэчна і паэтычна адзываецца аб нашай Бацькаўшчыне: «Жыву я ў Беларусі да верасьня, аддыхаю вельмі прыгожа, лаўлю рыбку, дый слухаю песьні салаўя, жаваранка і кукушкі. Што мне патрэбна ў жыцьці?» (Так піша да эмігранта).

«Старасьць сваю я абясьпечыў, пэнсіі мне хапае пражыць, а галоўнае — я жыву спакойна на радзіме, не як ты на чужыне. Пэўна, дочкі крыўдзяць (сволачы!), але — як табе ведама — маладыя старых ня любяць. Каб я ня быў інвалідам, дык меў-бы другую сілу. А так — трэба цярпець, бо мяне і малое дзіця можа пакрыўдзіць: не магу падняць нагі — пераступіць праз парог, зусім знасіўся — усё горш і горш. Уверху ўсе зубы павырываў, а ўнізу асталіся чатыры. І гемарой мучыць і ў жываце . . .»

Пасьля зноў наш інвалід спакайнее: расказывае, як зімой жыве ў горадзе, а на лета прыяжджае да сваіх:

« Радзіму не забудзеш ніколі, заўсёды будзе цягнуць. Такжа палавіць рыбкі, дый пасмакаваць — ня тое, што вашая марская пахне ёдам . . .»

Тут зноў ідзе сумная жорсткая нота:

« . . . ад старшае дачкі дастаў так, што ўсё жыцьцё не забудуся . . . называць роднага бацьку ,храмы чорт’ і ,сабака бязногая’ і ў твар удэрыць і за што? Меншая — таксама і такжа ўдэрыла. Нягодніца, зьвязалася з адным жыдам: яму 50 год, а ёй 16. Пэўна, я ўжо зь імі справіцца не магу: яны такія здаравенныя кабылы! А віна мая, што жаніўся з маладою. А дочкі, каб ім горкая доля, каб іх лёс — за маю крыўду — пакараў. Каб яны горш мяне калекамі асталіся ! . .»

У наступным пісьме зноў лепшы тон:

«А колькі цяпер купальшчыкаў на рацэ — усе берагі засеяны народам, а араматнае паветра, а вада — не неп’ешся — да чаго прыемная! Ты пазбаўлены гэтае прыемнасьці. — Сын у мяне — маладзец: прыслаў 20 рублёў. Я дастаю пэнсіі 32 рублі, але 30 рублёў аддаю на ўтрыманьне, а мне астаецца 2 рублі і трэба адзецца. Добра, што сам умею латаць, бо ня меў-бы ў чым хадзіць . . . як жабрак абарваны. Яны сабе ўсё купляюць, а мне нічога».

Словам, жыць старому надта цяжка:

«Другая зіма такая гнілая: цяпло горш як мароз. Усё перамянілася ў прыродзе. Здароўе маё вельмі благое. Усе 77 хваробаў наваліліся на мяне. ,Рыдзікуліць’ — не дае разагнуць сьпіну, то нагу пачынае сьцягваць сутарга, што ад болю крычыш, а па гадох яшчэ на стары (68 г.) . . .»

І кажа наш атэіст, што трэба шыкавацца да сьмерці. Аднак ягоная падрыхтоўка — гэта толькі фантазія і жаданьне памерці лёгка, бяз мукі і без страху — хутка і неадчувальна. Дык з гэтага бачым, што ён сапраўды атэіст, ці — лепш сказаць — нігіліст: перажыў жыцьцё, не дапускаючы да сваей душы ніякіх вышэйшых ідэалаў і бачучы ў сьмерці канец — толькі пустую яму. І ніякай перад нікім адказнасьці і ніякае надзеі.

Усё шчасьце атэіст разумеў — мець якуюсь у жыцьці прыемнасьць і як найменш прыкрасьці. А тымчасам усё складалася наадварот: прыемнасьці міналі хутка, а гора і няшчасьці надыходзілі і трывалі ўсьцяж, асабліва ў старасьці. Найгорш, што дзеці ўзгадаваныя ў атэізьме аказаліся неўдзячнымі і нягоднымі людзьмі. А бацька ідзе да сьмерці, люта праклінаючы дзяцей.

Дык вось пытаньне: ці ў атэізьме магчыма ўзгадаваць нармальную, маральна здаровую і шчасьлівую сям’ю і сапраўды культурнае, шчасьлівае грамадзтва?

---

## ЖАРТЫ

### Агітатар і бабулька

Аднойчы агітатар пераняў бабульку, як пацёмку несла ў царкву хрысьціць унука.

Агітатар: — Стой, бабка! Куды ты зь дзіцём ідзёш?

Бабулька: — Я — нічога . . .

Агіт.: — Не махлюй! Я ведаю — ідзеш да папа хрысьціць дзіцё . . . — Назад, назад!

Баб.: — Ах, які ты хітры! Сам то ты — хрышчаны ,а нам не даеш. —

Агіт.: — Дык што-ж, што я — хрышчаны? Але я ўжо адрокся і ў цырульніка выгаліў і выскрабаў галаву, а пасьля цэлы тыдзень адмываў гарачай вадой з мылам . . .

Баб.: — Ну, і дурань ты, хоць вучоны! А душы ты ня выскрабаў. —

Пакуль агітатар думаў, што сказаць, бабулька шмыгнула хрысьціць дзіця.

## БОГ У СЬВЕЦЕ

*Вялізны, безгранічны сьвет,*
*Як храм высокацэнны:*
*Усюды ў ім прыгожасьць, цьвет*
*І тайнаў шэпт сьвяшчэнны.*

*Днём сонца асьветляе храм,*
*А зоркі ночы —*
*Анёлкаў вочы —*
*Таёмна штосьць гамоняць нам.*

*І клічуць нас у вольны Край —*
*Той Край узвышанай Любові,*
*А там сьвяты, сапраўдны Рай . . .*
*Уся прырода аб ім мовіць:*

*І посьвіст ветру у гаі,*
*І шум ліcткоў бярозы,*
*І шолах траваў у маі*
*І раньніх росаў сьлёзы.*

*Прыроды храм зімоваю парой*
*Яшчэ здаецца прыгажэйшы*
*І, адмяніўшы выгляд свой,*
*Нас кліча да красы вышэйшай.*

*

*Сьляпы ня можа зразумець*
*Усей красы такой прыгожай:*
*Хоць будзе пільна ён глядзець,*
*Ня знае — СЬВЕТ ЁСЬЦЬ ХРАМАМ БОЖЫМ!*

*А на арэне сьвету «Галіят» —*
*Бязбожнік, з пекла родам,*
*Крычыць і блюзніць вельмі шмат —*
*Публічна прад народам!*

*Бязбожнік веру заглушыў*
*І кажа: «Чалавек — машына:*
*Няма ні Бога, ні душы —*
*Ты здохнеш як скаціна!»*

*

*Стварыў Бог сьвет для нас і для Сябе —*
*Ёсьць Божа Моц усюды:*
*Зямлю ў арэнду даў табе —*
*Ня слухай, брат, таго прыблуды!*

*Ў тваей душы магутны голас ёсьць,*
*Што мовіць чалавеку:*
*«Глядзі-пазнай, што Бог — ня госьць —*
*Жыве ад веку».*

*І ты ў сабе самым,*
*О, дружа — чалавеча цьвёрды,*
*Лічыся з голасам таёмным тым,*
*Што скажа у сумленьні гордым!*

*Сярод прыроды будзеш чуцца ты*
*Тут на зямлі — у Храме Божым,*
*Як той у радасьці сьвяты*
*У небе — на «Абрагама ложы».*

Др. Іоан Тарасэвіч

# Дыялёг з пеклам

Аднойчы прыляцеў да Люцыпара вёрткі чорт Мантойфаль і кажа:

— Ведаеш, бацька? я надумаў: цяпер у Царкве пайшла мода на дыялёгі. — Давай, каб і нам увайсьці ў дыялёг з каталікамі!

Люцыпар: — Ня ўдасца!

Мантойфаль: — Чаму ня ўдасца? Я сам перахітру хоць і рымскага кардынала Бэа!

Люцыпар: — Кардынал — гэта малаважна, але ён — езуіт!

Мант.: — Ну, гэта горш! Але і бязбожнікі ідуць у дыялёг.

Люц.: — Бязбожнікам лягчэй як чэрцям. У іх ёсьць *прымус* і тэрор. Мы можам лгаць, ашукваць, страшыць, насьміхацца і інш. Але прымушаць нам Бог не дапускае. Значыць, нам найлепш спакушаць людзей праз другіх людзей. І другое: мы праканаліся, што бязбожнасьць нам ня ўдаецца. Цяпер мы пачнём новую эпоху: будзем разводзіць на сьвеце *безчартоўе*. —

Мант.: — Як гэта? ці-ж мы можам ваяваць самі супраць сябе?!

Люц.: — Можам і будзем ад гэтага дня!

Мант.: — Тады мы станем анёламі... Тады ты — зраднік!

Люц.: — Ня бойся — не станем! — Бязбожнасьць — кажу, нам не ўдалася: чым больш расце навука, тым трудней змагацца з Богам. Бо людзі пазнаюць, што сьвет складаецца зь мільярдаў атомаў, а тыя — з электронаў. І ўсё гэта гарманізуецца ў ідэальны парадак. Дык толькі самыя шалёныя вар'яты ня прызнаюць Бога! Кажуць, што ўсё збудавала неразумная прырода. — Дык, каб ня прымус, уся бязбожнасьць трэсьне адразу!

Мант.: — А што нам паможа — адкінуць чарта і пекла?

Люц.: — О, шмат паможа! Шмат людзей са страху прызнаюць Бога. — Дык вось цяпер далоў усякія спірытызмы, чарадзействы і бязбожнасьць! Нашыя людзі будуць пісаць супраць веры ў пекла і супраць чэрцяў: будуць *навукова* тлумачыць, што чэрцяў няма ні на зямлі, ні пасьля сьмерці. Гэтак супакоім людзкія душы, што і няма ні анёлаў, ні сьвятых і што няма душы — значыць, можна жыць спакойна і ўміраць таксама і... значыць, няма і Бога! — Але тымчасам мы будзем пісаць Бога вялікай літарай. Але Царква загіне аўтаматычна.

— А чарта мы забаронім успамінаць зусім, каб не дражніць людзей. — Такая тактыка акажацца самай разумнай: перамога будзе нашая!

Мант.: — Вялікі твой розум, бацька!

Люц.: — Бо не дарэмна я стаў першым чартом: усё пекла мяне мусіць слухаць і ўсе пакланяцца! — Вось такі павінен быць *дыялёг пекла з каталікамі.*

ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

## ДЗЬВЕ СЬМЕРЦІ

*Памёр ЧЫТАЧ:*
*Падняўся плач,*
*Зьвінеў і рос у хаце...*

*Другі — «шабаш»:*
*Памёр РЭДАКТАР наш!*
*Бо ўсім нам трэба паміраці.*

*І — ні па моры, ні па сушы —*
*На Суд ляцелі душы —*
*Па яснай стратасфэры*
*У неба — аж пад дзверы.*

*Спаткаліся абедзьве ў страху*
*На Божым Шляху.*

*Чытач Рэдактару гавора:*
*«Ах, гора-ж маё, гора!*
*І што са мною будзе*
*На Страшным Судзе?,*

*Бо я, ваш «Божы Шлях» чытаўшы,*
*Памёр, Вам доўгу не аддаўшы. —*
*Дык Вы мяне хоць пашкадуйце*
*І доўг скасуйце!»*

*Рэдактар кажа:*
*«О, так! люблю я згоду,*
*Дый маю перашкоду,*

*Бо ўсе рахункі (у парожняй місе)*
*У Мар'ен Гаўзе асталіся, —*
*У Лёндане, на Holden Ave, —*
*Дык вось якая справа! —*

*

*Сьвяты Пятро ў хвілінку тую*
*Ім адчыняе Браму Залатую.*

*Чытач наш, як прыбіты,*
*Сьлязьмі абліты,*
*Ідзе —*
*Дрыжыць —*
*Баіцца —*
*З Рэдактарам судзіцца!..*

*

*Гэй, ЧЫТАЧЫ, пакуль Вам сіла служа,*
*Не адклайдайце дужа!*
*Бо «на тым Судзе*
*Аддадзена Вам будзе*
*Паводле вашай меры»,*
*Як кажа Дантэ-Альлігіеры.*

Рэдактар Я. Г.

ЗЬМЕСТ:


1. Рэдакцыя вітае Суродзічаў «Хрыстос Уваскрос!» і са Сьвятам 25-га Сакавіка . . . 1
2. ПАСЛАНЬНІ II-га Ватыканскага Сабору . . . 2
3. а. Аляксандар Надсон: Сьв. Кірыл Тураўскі . . . 4
4. Я. Г.: Мае Прыяцелі — А. Аношка . . . 10
5. Дыякан Р. Тамушанскі: Дзед і бабка гаварылі па нашаму . . . 12
6. Я. Савіцкі: Сьвятары-работнікі . . . 13
7. Беларуская гравюра ў дрэве . . . 14
8. З Царкоўнага жыцьця . . . 15
9. З Беларускага жыцьця і З Белар. прэсы . . . 18
10. а. Я. Гэрмановіч: Жыцьцё і сьмерць атэіста . . . 20
11. Др. Іоан Тарасэвіч: Бог у сьвеце (Верш) . . . 21
12. Дыялёг з пеклам (Фэльетон) . . . 21
13. Зварот да Паважаных Чытачоў . . . 22


Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.